ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№12 (81) снежань 2017 год

CATHOLICNEWS.BY



# Божае Нараджэнне 2017

**Паважаныя браты і сёстры ў Хрысце!**
**Дарагія вернікі і ўсе людзі добрай волі!**

***“Нова радасць стала, што йшчэ не бывала, над Бэтлеемам зорка ясна свету зазяла!”***

Менавіта так, як штосьці даўняе, але заўсёды новае, жывое і небывалае ўспрымае хрысціянскі свет праўду пра нараджэнне Божага Сына. Так, у гэты свет прыходзіць Бог. Прыходзіць, каб спадарожнічаць чалавеку: умацоўваць у выпрабаваннях, суцяшаць, даваць надзею і паказваць шлях у шчаслівую вечнасць. Таму зноў запальваюцца калядныя елкі, гучаць радасныя спевы, рыхтуюцца падарункі… І гэта таксама важна, бо па-сапраўднаму перажыць такое свята можна толькі паяднаўшыся са сваім бліжнім: папрасіўшы прабачэння і прабачыўшы тым, хто нас пакрыўдзіў. Так, як робіць гэта з намі Бог у Сваім Сыне – адорвае любоўю, бо прымае нас такімі, якія мы ёсць. Не згаджаецца на зло, але ніколі не перакрэслівае чалавека.

Збаўца нараджаецца ў стайні. Ён хоча гэтым сказаць, што не цураецца ніякай жыццёвай сітуацыі, у якую можа патрапіць чалавек. Ён прыйшоў, каб гэтую сітуацыю змяніць і тую людскую душу, якая нярэдка можа выглядаць, як хлеў, перамяніць у палац, у храм Свайго Духа. Таму Ён усклікне ў свой час: ***“Прыдзіце да Мяне ўсе спрацаваныя і абцяжараныя, і Я ўмацую вас!”*** (Мц 11,28). І трэба толькі паверыць у тое, што Хрыстос сапраўды мае моц змяніць жыццё чалавека на лепшае, і што Ён здольны даць сілы прайсці праз выпрабаванні. Гэтую моц адчула на сабе Дзева Марыя, ***“...Якая паверыла, што споўніцца сказанае Ёй Госпадам”*** (Лк 1,45), і праз гэта стала шчаслівай. Так, нашага жыцця без нас не зменіць ніхто, але дзеля гэтага патрэбнае святло і моц духа, крыніцай якіх з’яўляецца ўцелаўлёнае Божае Слова.

Жадаю кожнаму з нас, дарагія браты і сёстры, каб Бэтлеемская зорка, якая прывяла да ясляў Збаўцы трох мудрацоў з усходу, пастушкоў, што пільнавалі свой статак, і нам адкрыла шлях да Божай Мудрасці, якая дазволіць нам весці жыццё, напоўненае згодай, радасцю і супакоем. Няхай моцная вера, трывалая надзея і непагасная любоў паселяцца ў Вашым сэрцы і ў кожным доме, як некалі гэта здарылася ў сціплай Бэтлеемскай стайні!

**Са Святам!**

**+Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**

# Пантыфік нагадаў пра неабходнасць ядзернага раззбраення

**На цесную сувязь паміж правамі чалавека і ядзерным раззбраеннем звярнуў увагу Папа Францішак 10 снежня пасля малітвы "Анёл Панскі" ў Ватыкане.**

Папа зрабіў спасылку на цырымонію прысуджэння Нобелеўскай прэміі міру Міжнароднай кампаніі па забароне ядзернай зброі (ICAN) і святкаванне Дня ААН па правах чалавека.

*"Абавязацельства абараняць годнасць усіх людзей, асабліва найбольш уразлівых і пакрыўджаных, азначае і значныя намаганні па пабудове свету без ядзернай зброі"*, — сказаў Пантыфік і падкрэсліў: *"Бог дае нам магчымасць працаваць разам, каб пабудаваць наш агульны дом: мы маем свабоду, інтэлект і здольнасць кіраваць тэхналогіямі, абмежавання нашай сілы ў імя служэння міру і праўдзівага прагрэсу"*.

Нобелеўскую прэмію міру за 2017 год прысудзілі Міжнароднай кампаніі па забароне ядзернай зброі, паведаміў Нарвежскі нобелеўскі камітэт. Сёлета на ўзнагароду прэтэндавалі 318 кандыдатаў, у тым ліку 215 чалавек і 103 грамадскія і міжнародныя арганізацыі. Прэмія міру – адна з пяці, завешчаных у канцы XIX стагоддзя шведскім прамыслоўцам і вынаходнікам Альфрэдам Нобелем.

Папа і Святы Пасад актыўна выступаюць за поўнае ядзернае раззбраенне. У лістападзе ў Ватыкане прайшоў буйны міжнародны саміт, прысвечаны гэтай праблеме, сярод удзельнікаў якога былі прадстаўнікі краін "ядзернага клуба", ААН і НАТА, дыпламаты і лаўрэаты Нобелеўскай прэміі. Францішак заявіў тады, што "зброя масавага знішчэння, у прыватнасці ядзерная, не стварае нічога, акрамя фальшывага пачуцця бяспекі, і не можа складаць аснову мірнага суіснавання членаў чалавечай сям'і". "Ядзерная зброя, — падкрэсліў ён — з'яўляецца не толькі амаральнай, але і павінна разглядацца як нелегальны ваенны інструмент".




*Ватыканскае радыё*

# Беларусь: біскупы рыхтуюцца да "ad limina"

**Беларускія біскупы рыхтуюцца да візіту "ad limina", які пройдзе ў першы тыдзень лютага 2018 г. і падчас якога адбудзецца іх сустрэча з Папам Францішкам.**

Гэта магчымасць падвесці вынікі, прызнаўся арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, падчас перадсвяточнай прэс-канферэнцыі 19 снежня ў Мінску.

"Праблема – гэта недастатковая колькасць святароў, праблема ў тым, што замежныя святары абмежаваныя ў сваёй дзейнасці, і біскуп не вырашае, ці гэты святар можа працаваць ці не можа, вырашаюць улады. Гэта сёння цяжка разумеюць за мяжой, нават у Расіі і Украіне. Таксама недастаткова касцёлаў, недастаткова пакліканняў, аб усім гэтым мы будзем казаць у Ватыкане. Праблемы сям'і імоладзі таксама. Але ж ёсць і іншы бок: мінулі Юбілейны Год Міласэрнасці мінуў і Год Фацімскіх аб'яўленняў. Распавядзем аб гэтым: колькі людзей было ў касцёлах, колькі вернікаў прыходзіна да споведзі. Прайшло пасяджэнне Рады Біскупскіх Канферэнцый Еўропы, выдадзен Новы Запавет на беларускай мове – гэта ўсё пазітыўныя моманты", - прызнаўся іерарх.

Таксама біскупы падчас візіту ў Ватыкан перададуць запрашэнне Францішку наведаць Беларусь.

Падводзячы вынікі 2017 г., старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі адзначыў: год быў плённым – у першую чаргу ў духоўным плане. "Шмат падзей і шмат пастырскіх праграм было рэалізавана. Гэтым мы хацелі праславіць Бога і хацелі, каб наш беларускі народ удасканальваўся ў сваёй веры", - сказаў арцыбіскуп.

Не менш значным абяцае быць наступны год, цэнтральнай падзеяй якога стане Сінод Біскупаў па пытаннях моладзі, які пройдзе ў Ватыкане. Касцёл у Беларусі таксама будзе прадстаўлены на маштабным форуме са сваімі пытаннямі і прапановамі. А акрэсліць іх і зрабіць рахунак сумлення дапаможа агульнабеларускае спатканне моладзі. Магчымасць яго правядзення хутка абмяркуюць біскупы Беларусі.

*Ватыканскае радыё*

# Біскуп Алег Буткевіч назваў "замкнёным колам" сітуацыю вакол адбудовы касцёла Св. Антонія ў Віцебску

## Біскуп Алег Буткевіч сустрэўся з журналістамі напярэдадні свята Божага Нараджэння



**Прэс-канферэнцыя іерарха адбылася ў Віцебску 14 снежня.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Падчас мерапрыемства біскуп распавёў пра падзеі, што адбываліся на працягу гэтага года ў Касцёле на Віцебшчыне, пра далейшыя планы і адказаў на пытанні журналістаў.

На працягу 2017 года адбылося шмат візітацый, падчас якіх біскуп пазнаёміўся з жыццём большасці парафій дыяцэзіі. На наступны год візітацыі запланаваны ў Браслаўскім дэканаце і часткі Глыбоцкага. Іерарх адзначыў, што яму прыемна сустракацца з людзьмі, знаёміцца з жыццём унутры рэлігійнай супольнасці, бачыць добрыя прыклады супрацоўніцтва Касцёла з дзяржаўнымі і грамадскімі ўстановамі.

Гэты год быў юбілейным як для Касцёла, так і ў цэлым для Беларусі: мы адзначылі 500-гадовы юбілей беларускага кнігадрукавання. Таму ў гэтым годзе прамая тэлевізійная трансляцыя святочнай Імшы будзе весціся з касцёла Святога Андрэя Баболі ў Полацку, горада, дзе нарадзіўся беларускі першадрукар.

Журналістаў цікавілі пытанні, звязаныя з аднаўленнем касцёла Святога Антонія ў Віцебску. Зараз ёсць разуменне ў гэтым пытанні з боку дзяржаўных уладаў, але некаторыя бюракратычныя цяжкасці ўсё ж застаюцца.

"Зараз паўстала праблема атрымання дазволу з боку ўпаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Адміністрацыі Прэзідэнта. І тут атрымалася "замкнутае кола": каб даць дазвол на будаўніцтва, у нас пытаюцца пра нашы фінансавыя магчымасці, а пачаць афіцыйны збор сродкаў мы можам толькі тады, калі ёсць упэўненасць, што нам выдзелілі зямлю пад будаўніцтва. І як разарваць гэтае кола, пакуль невядома," – адзначыў іерарх.

Вакол гэтага будаўніцтва ў сацыяльных сетках ужо даўно вядуцца "баталіі": прадстаўнікі Таварыства па ахове помнікаў гісторыі і культуры лічаць, што калі храм будзе зрушаны адносна гістарычных падмуркаў хаця б на метр, то гэта будзе ўжо лічыцца новабудам. Але біскуп лічыць гэта пытанне не самым галоўным:

– Магчыма, не ўсе са мной пагодзяцца, але не так важна, будзе стаяць касцёл на старых падмурках або будзе трохі зрушаны адносна іх. Дарэчы, зараз яшчэ разглядаюцца абодва варыянты. Важны сам факт з'яўлення аб'екта, які будзе з'яўляцца не толькі сакральным будынкам для католікаў, але і славутасць, што ўпрыгожыць гістарычны цэнтр горада.

Закрануў біскуп і пытанне цяжкасцей, звязаных з запрашэннем святароў з-за мяжы, назваўшы гэта спадчынай камуністычнага рэжыму, якую трэба перaадольваць.

У канцы студзеня іерарх накіруецца ў Апостальскую Сталіцу, дзе з 31 студзеня па 7 лютага будзе праходзіць сустрэча ўсіх каталіцкіх біскупаў. Апошняя такая сустрэча адбывалася ў 2009 годзе. Падчас гэтай сустрэчы біскуп плануе распавесці Папу, што Касцёл у Беларусі жыве і развіваецца, а таксама зноў перадаць яму запрашэнне ад усіх вернікаў наведаць Беларусь.

Спадзяёмся, што добрая воля ўсё ж пераможа, і гэты візіт стане магчымым ужо ў бліжэйшай будучыні.



# Чаму каталікі святкуюць Божае Нараджэнне 25 снежня?

**Думка про святкаванне нараджэння Езуса Хрыста несумненна з'явілася пад уплывам грэка-рымскай культуры. На гэтым культурным абшары існаваў звычай святкавання нараджэння ўладароў і славутых людзей. Не павінна была быць фактычная дата іх нараджэння, часта яна была сімвалічнай.**

■ **а. Аляксандр Махнач SP**, *піяр з Ліды*



Портрет Папы Григория XIII, художник Лавиния Фонтана.

Калі ж гаворка ідзе пра Езуса Хрыста, то ўсе чатыры Евангеліі не падаюць такіх дадзеных, на падставе якіх можна было б устанавіць канкрэтную дату Яго нараджэння. Адсюль і звернута ўвага на сімвалічную дату 25 снежня – дзень зімовага сонцастаяння. Такім чынам гэты дзень стаў урачыстасцю нараджэння Збаўцы нашага, Езуса Хрыста, як ***Сонца справядлівасці*** (Мл 4,2) і ***Святла свету*** (Ян 8,12). Яшчэ ў 274 г. Цэзар Аўрэлій (†275 г.), дзень 25 снежня, прызначыў на святкаванне ***Natale Solis Invicti*** (*з лацінскай мовы:* Нараджэння непераможнага сонца). У гэты дзень злучыліся два святы: *хрысціянскае:* **Нараджэнне Езуса Хрыста** і *язычніцкае:* **нараджэнне сонца**. Язычнікам не перашкаджала тое, што хрысціяне святкавалі ў гэты дзень Божае Нараджэнне, асабліва калі гэтае паганскае свята было адным з апошніх бастыёнаў паганства на тым геаграфічным абшары.

Новая ўрачыстасць Божага Нараджэння з'явілася ў адпаведны момант, таму што ў тым часе распаўсюджваліся хрысталагічныя памылкі. Асабліва Арый, які не прызнаваў Боства Хрыста. Нікейскі сабор (325 г.) абвясціў, што Езус Хрыстус, Сын Божы, Народжаны з Айца, прыняў цела і стаў чалавекам дзеля нашага збаўлення. Абвяшчэнне на саборы гэтай праўды нашай веры было ўзмоцнена святкаваннем Божага Нараджэння. Праз гэтае свята народ Божы атрымаў апору для сваёй веры. Першыя сляды існавання ўрачыстасці Божага Нараджэння, знаходзяцца ў *рымскім календары* летапісца Фурыя Дыянізія Філокала (Filocalus) з 354 г.

З перыядам Божага Нараджэння таксама звязаны розныя звычаі: *батлейка*, вядомая з V ст., *калядкі*, якія спяваюцца на нашай зямлі з XVI ст., *вігілійныя аплаткі (хлеб)* – вядомыя нам з XVIII ст. як знак любові і адзінства, асабліва ў сям'і; *ялінка з падарункамі*, вядомая ўжо з пачатку XIX ст., якая з'яўляецца сімвалам нязменнасці, вечнасці і вобразна паказвае Хрыста, прыходзячага з дарамі сваіх ласкаў.

Розніца ў святкаванні Божага Нараджэння паміж католікамі і праваслаўнымі толькі ў календары. Католікі святкуюць паводле грыгарыянскага календара (новы стыль), нашыя Браты і Сёстры – праваслаўныя, паводле юліянскага календара (стары стыль). Розніца паміж грыгарыянскім і юліянскім календарамі складае 13 дзён. Недакладнасць юліянскага календара прывяла да таго, што ў 1582 г. розніца з астранамічным календаром склала 10 дзён. Па прапанове вучоных Луіджы і Антонія Лілія Папа Рымскі Грыгорый XIII увёў новы каляндар — грыгарыянскі. 24 лютага 1582 г. Грыгорый XIII выдаў булу *"Inter gravissimas"* ("Сярод найважнейшых"), у якой напісана наступнае: *"Было клопатам нашым узнавіць раўнадзенства. Ад спрадвеку ўсталяванага ім месца Нікейскім Саборам, яно адышло на дзесяць дзён. І чатырнаццатаму месяцу вярнуць ягонае месца, ад якога ён на пяць дзён адыходзіць, а таксама ўстанавіць правілы, каб і ў будучым раўнадзенства і чатырнаццаты месяц з месца не зрушваўся... Таму вярнуць вясновае раўнадзенства, якое айцы Нікейскага Сабору ўстанавілі на 12-ы дзень перад красавіцкімі календамі (то бок 21 сакавіка), мы прадпісваем і загадваем з гэтага 1582 году".* Цяпер мы ўсе жывем паводле грыгарыянскага календара.

Сапраўды, бальшавікі ўжо ад 1918 года ціснулі на патрыярха Ціхана ў справе пераводу РПЦ МП на грыгарыянскі каляндар. У 1918 г. савецкая Расія перайшла на грыгарыянскі каляндар, а Руская Праваслаўная Царква захавала юліянскі каляндар да сённяшняга дня. Спроба ўвядзення новага стылю ўжо была здзейснена ў РПЦ МП патрыярхам Ціханам 15 кастрычніка 1923 года, але была адкінута вернікамі ды скасаваная ўжо 8 лістапада таго ж года, праіснаваўшы толькі 24 дні. Існуе свядомасць таго, што традыцыйны ў Рускай Праваслаўнай Царкве юліянскі каляндар больш святы, што ён з'яўляецца апорай духоўнасці — гэтыя перакананні маюць свае падставы. Да таго ж трыманне "старога стылю" было для праваслаўных архірэяў, святароў і вернікаў своеасаблівою формаю пратэсту супраць савецкай улады, якая ад лістапада 1917 года вяла сапраўдную вайну супраць Праваслаўнай Царквы. Юліянскі каляндар, уведзены ўжо амаль два тысячагоддзі таму, функцыянуе — у царкоўным сэнсе — дасканала. Ён, зразумела, недасканалы ў астранамічным сэнсе, але гэта ўжо іншае пытанне. Выкарыстанне ў Царкве юліянскага календара для святкавання Божага Нараджэння, як і іншых нерухомых святаў, аніяк не звязана з багаслоўскімі або дагматычнымі падставамі.

Вось таму і адзначаем гэтае агульнае свята для хрысціянаў у розныя дні.

На самой справе важна тое, што Мы – Хрысціяне (католікі, грэка-католікі, праваслаўныя і пратэстанты) памятаем і ўшаноўваем гэтую вялікую таямніцу нашай веры – Уцелаўлення Божага Сына. Божае Нараджэнне дало пачатак эры хрысціянства – эры любові і прабачэння!



**Схема грыгарыянскага календара**

# Татаў малітоўнік

**У маёй душы назаўсёды застанецца ўдзячнасць бацькам, якія здолелі, нягледзечы на цяжкасці таго няпростага часу камуністычных ганенняў, прывіць нам, дзецям, яшчэ ў дзяцінстве любоў да Бога і Касцёла, бо Касцёл заўсёды быў часткай іхняга жыцця.**

■ **Лілія Феакцістава**, *парафія Маці Божай Унебаўзятай (в. Канстанцінава Мядзельскі дэканат)*

Кожную нядзелю я прыходжу ў Касцёл на святую Імшу за хвілін дваццаць да яе пачатку, каб у цішы яшчэ раз аддаць хвалу Пану Богу сваёй малітвай. А вось на гэты раз, укленчыўшы, як звычайна на сваім месцы, пачула незнаёмую мне малітву, якой у паўголаса маліліся да Маці Божай Нястомнай Дапамогі некалькі старэнькіх жанчын. Мяне настолькі ўразілі словы гэтай цудоўнай малітвы, што, прыйшоўшы дадому, я перагартала сучасныя малітоўнікі з надзеяй адшукаць тую малітву, але не знайшла. І тады я ўспомніла пра стары татаў малітоўнік, які пасля смерці таты, а прайшло ўжо чатырнаццаць гадоў, як тата адышоў у вечнасць на 82-ім годзе жыцця, ляжаў у куточку кніжнай паліцы.

Дастала малітоўнік. Пачарнелая вокладка, пажоўклыя ад часу старонкі і маленькі абразок з выявай Езуска ў Ясельках, які выпаў з малітоўніка мне на калені, навеялі цёплыя ўспаміны, якія вярнулі мяне ў далёкае дзяцінства.

...Вігілійны вечар у нашай бацькоўскай хаце. Незабыўны пах жывой хвоі. Па-дзіцячаму радаснае чаканне свята. Стол, засланы саматканым абрусом, пад якім грувасцілася пахучае сена, шчодра застаўлены надзвычай смачнымі поснымі стравамі. Мак, які абавязкова таўкла мама для куцці. Мы са старэйшай сястрой упрыгожвалі елку. Асабліва любілі развешваць цукеркі ў бліскучых паперках, якія даставала мама з куфра. І толькі малодшаму брату, яшчэ да пачатку вігілійнай вячэры, дазвалялася адна цукерка. На стале побач з невялікім крыжыкам запальвалася свечка, і на маленькай белай талерачцы мама прыносіла аплаткі. І тады тата браў у рукі вось гэты самы малітоўнік. Усе разам шчыра маліліся. Нам, дзецям, былі не зусім зразумелымі словы малітвы на чужой польскай мове. Але тата нам тлумачыў, і мы ведалі і верылі, што ў гэтую цудоўную ноч недзе ў далёкім Бэтлееме нарадзіўся Сын Божы – маленькі Хрыстус Пан. Мама з татам першымі дзяліліся аплаткам, перапрашалі адзін аднаго, а потым дзяліліся з намі і жадалі ўсім здароўя. Спажываць аплатак нас, дзяцей, вучылі з вялікай павагай і пашанай. Пасля вячэры бацькі ішлі пешшу за тры вярсты ў Касцёл на Пастэрку. Зімы тады былі марозныя, і мы, дзеці, заставаліся ў цёплай хаце. Тата наказваў нам не сваволіць, бо калі мы будзем распуставаць, то Бэтлеемская Зорачка апоўначы не загляне да нас у акенца. І, прыціхшыя ў чаканні гэтага цуда, мы засыналі...

Зноў пагартала працёртыя пальцамі татавых рук старонкі малітоўніка. Знайшла патрэбную малітву і паабяцала для сябе, што з гэтага часу ў маёй сям'і на вігілійным стале побач з аплаткам, запаленай свечкай і крыжыкам заўсёды будзе татаў малітоўнік, які, напэўна, таксама дастаўся яму ў спадчыну ад сваіх бацькоў, бо год выдання – адна тысяча дзевяцьсоты.

# “Каталіцкі Веснік – 2017”:



**Будслаў. 2017 год.** *Здымак Леаніда Юрыка*

**Сёння будзем знаёміцца з табой бліжэй, мой паважаны чытач. І пачнём гэта знаёмства з таго, што нас аб'ядноўвае. Здагадаўся? Правільна, мы з табой – як ты, так і я – чытаем каталіцкую прэсу, паглыбляем свае веды пра нашу веру і знаходзім у рэлігійных часопісах і газетах, ёсць штосьці такое, чаго нам не хапае ў нашым жыцці вернікаў.**

**Аксана Нядвецкая**

І вось тут у мяне да цябе шмат пытанняў, дарагі сябра. Табе чагосьці нестае ў тваім жыцці верніка? Нядзельныя казанні, служэнне ў супольнасці (яно ж у цябе ёсць?), размовы з сябрамі-католікамі, самастойнае чытанне Бібліі – гэтага не дастаткова табе? Тэарытычна – магло б хапіць, практычна – не заўсёды. Раскажу пра сябе: што я шукаю на старонках каталіцкіх выданняў і чаго не хапае мне на маім шляху верніцы (як я не люблю гэта слова ў адносінах да сябе, ты нават уявіць сабе не можаш!) Нашмат прыемней ісці не шляхамі вернікаў і верніц (або асоб кансэкраваных, яшчэ адзін моўны “цуд”), а шляхамі Дзяцей Божых, Божых Цудаў, унікальных Божых Праектаў, якія, незалежна ад таго, падабаюцца нам гэтыя назвы ці не, вядуць да Стваральніка толькі праз шлях верніка ці асобы кансэкраванай.

Дык вось, мой сябра Унікальны Праект, шукаю я на старонках каталіцкай прэсы адказы на пытанні, якія натуральна ўзнікаюць пры ператварэнні веры ў жыццё, думкі такіх жа, як я, людзей, што знайшлі Пана, але часам не ведаюць, як быць Яму вернымі штодзённа – у працы і адпачынку, у адносінах з сябрамі, роднымі, знаёмымі і незнаёмымі людзьмі, ва ўсіх сферах сучаснага жыцця. А таксама парады, веды, тлумачэнні – усё тое, што можа наблізіць да Пана Бога і дапамагчы зразумець Яго волю.

А вось ці знаходжу я ўсё гэта на старонках добра знаёмай нам з табой газеты, ты даведаешся, калі дачытаеш мой артыкул да канца.

Пачынаем гартаць “Веснік” №№70–80 і даставаць з яго “ўсё самае лепшае, схаванае глыбока ўнутры”.

Першы матэрыял, які мне хочацца адзначыць, – гэта артыкул **“Я быў малы, а Імшал цяжкі...”** *(№72, старонка 2)*, у якім Папа Францішак адказвае на лісты дзяцей з Ламбардыі, Крэмоны, Катаніі, Палерма і іншых невядомых мне мясцін. Адзінаццацігадовы Паола з Удына паведаміў Пантыфіку, што мае намер стаць святаром і просіць памятаць яго ў малітве. Праз некалькі тыдняў у паштовай скрынцы Паола чакала неспадзяванка – адрасаваны яму канверт са штэмпелем Ватыкана, а ўнутры ліст, напісаны ад імя Папы Францішка, за подпісам арцыбіскупа Пітэра Уэлса. “Яго Святасць дзякуе табе за любоў, якая натхніла цябе на гэты сыноўні жэст, і запэўнівае, што будзе маліцца, каб дзякуючы службе алтара саспела тваё шчырае і поўнае любові сяброўства з Панам Езусам і дапамагло табе зразумець, які Яго план у адносінах да цябе”, – вось некалькі слоў з таго ліста. І калі Паола будзе добра маліцца, не занядбае сваіх абавязкаў міністранта і чалавека, а Папа стрымае слова і будзе маліцца за Паола, то гадоў праз чатырнаццаць Удына будзе мець новага святара.

І на гэтай жа старонцы – маленькі артыкул **“Незвычайная споведзь Яна Паўла II”**, непрыкметны знешне, але магутны па сутнасці. Гэту гісторыю пра Яна Паўла II распавёў Папа Францішак. Адзін бяздомны паляк у Рыме не размаўляў ні з кім, нават з валанцёрамі “Карытас”, якія прыносілі яму ежу. Толькі пасля доўгага часу абмовіўся ім, што з'яўляецца святаром і вучыўся ў семінарыі разам з Янам Паўлам II. Гэта дайшло да Папы, які, пачуўшы імя бяздомнага, пацвердзіў, што быў разам з ім у семінарыі. Папа знайшоў час і сустрэўся з гэтым няшчасным святаром, сустрэўся сам, ад свайго імя і сваёй асобай. “Яны моцна абняліся праз сорак гадоў, што мінулі, а ў завяршэнне аўдыенцыі бяздомны папрасіў Папу, каб яго паспавядаў”, – прыводзіць “Каталіцкі Веснік” словы Папы Францішка. Затым гэты, на першы погляд, страчаны для грамадства чалавек і згублены для Касцёла святар прапанаваў Папу самому паспавядацца ў яго.

І тут я схільная верыць, што ўсё было менавіта так (мы памятаем, што гісторыю гэту Папа Францішак чуў ад Яна Паўла II, распавёў яе часопісу “Scarp de'tenis”, пераказаў яе для нас “Каталіцкі Веснік” са спасылкай на deon.pl, карацей кажучы, у гэтым ланцужку штосьці магло згубіцца або перадацца-перакласціся не так). “Цяпер твая чарга”, – сказаў Папу чалавек, які зноў адчуў сябе святаром. І сказаў ён гэта не па-сяброўску (людзей, якія не бачыліся сорак гадоў і не падтрымлівалі аніякай сувязі, нельга назваць сябрамі, мы нават не ведаем, ці сябравалі яны ў семінарыі). Ён з выклікам гэта сказаў і з нахабнасцю, якая назіраецца амаль ва ўсіх бяздомных і няшчасных людзей, выкінутых з “нармальнага” жыцця (у мяне, напрыклад, часта просяць: “Дай на хлеб!” – ні ветлівага слова табе, ні належнага “вы”). Я не думаю, што гады жыцця ў цяжкім граху і пакутах сумлення прайшлі непрыкметна, як і не думаю, што адразу пасля споведзі гэты чалавек пойдзе і будзе евангелізаваць, спавядаць, адпраўляць святую Імшу як ні ў чым не бывала. Мы ведаем з артыкула, што пасля сустрэчы з Папам бяздомны святар усё ж такі змяніўся, вярнуўся да нармальнага жыцця і стаў капеланам у шпіталі. І гэта сапраўды цуд, цудам назваў гэту лёсавызначальную сустрэчу і Папа Францішак. Але ў той момант, калі гэты вымыты, пагалены і прыбраны ў чыстае адзенне жабрак (яго ж падрыхтавалі да аўдыенцыі, ці не так?) казаў сваё “Цяпер твая чарга”, ён казаў і: “Ты верыш, я веру – тады давай, Папа, паспавядайся мне, няўдачніку, які не тое, што Містычнае Цела Хрыстова не здолеў будаваць, але і з жыццём сваім не разабраўся!” Яму патрэбная была гэта споведзь Папы таксама моцна, як і яго споведзь некалькі хвілін да гэтага – для ўмацавання веры, як прызнанне, як доказ самому сабе вартасці тых каштоўнасцей, дзеля якіх ён маладым і нявопытным рабіў свой самы важны выбар. А разлад яго з Панам Богам быў, напэўна, настолькі вялікі, што патрабаваў дапамогі самога Папы, але і любоў Пана Бога да чалавека, які калісьці сказаў Яму сваё “так”, і зацікаўленасць у ім была такой каласальнай, што Ён самога Папу яму і даслаў.

А мы радуемся, што ў бяздомнага святара ўсё атрымалася, і ідзём далей.

**№73, красавік, велікодны “Веснік”, адзін з самых цікавых нумароў 2017 года для мяне.** Адразу адзначу, што радасць, надзея і ўзнёслы настрой, звязаныя з перажываннем Вялікадня, адчуваліся ў гэтым месяцы як у матэрыялах газеты, так і на сайце.

Нумар запомніўся мне ягняткам сястры Крысціяны, публікацыяй **“Яго Голаса”**, перададзенага маімі словамі, матэрыялам пра святую Рыту, якая спыніла вендэту, карысным артыкулам для моладзі пра абавязковыя межы ў адносінах хлопца і дзяўчыны (хаця навошта мне гэта, сама не разумею) і пазнавальным артыкулам для мяне як для маці дзесяцігадовага сына пра тое, ці можна прымусіць паспавядацца.

Але была ў гэтым нумары яшчэ адна старонка, якую не магу пакінуць без увагі. **Старонка 5, рубрыка “Памяць”,** матэрыял, прысвечаны ксяндзу Уладасу Пятрайцісу ў сувязі з пятай гадавінай яго смерці.

“Яго палюбілі адразу, калі з прыязнай, светлай усмешкай выйшаў ён да алтара на сваю першую Імшу ў Мёрах у лістападзе 1985 года,” – піша Алена Сакалоўская ад імя вернікаў Мёршчыны. Шчыры і самаадданы святар не шкадаваў сілы і здароўя, змагаўся за адраджэнне веры на мёрскай зямлі, запомніўся вернікам як таленавіты, высокаадукаваны чалавек з бязмежным аптымізмам і дарам псіхолага.

А я хачу расказаць, чым уразіў мяне гэты матэрыял (акрамя асобы самога святара Пятрайціса, пра якога калісьці чула, і калі ўважліва перачытала старонку, прысвечаную яму, праніклася яшчэ большай павагай і шмат аб чым задумалася), уразіў як верніка “са стажам”, як аўтара з падрыхтоўкай рэдактара і вопытам чытача і як чалавека, каторы цікавіцца гісторыяй, любіць сваю Бацькаўшчыну і лічыць сябе патрыётам.

Па-першае, я вельмі рада была ўбачыць фота газетных старонак выдання мёрскага рыма-каталіцкага касцёла “Голас душы”, рэдактарам якога быў а. Уладас. Нас пазнаёмілі з нумарам за сакавік, гэта велікодны нумар 1991 года, які завітаў “у госці” ў красавіцкі “Веснік”, каторы ў нас таксама пачынаецца словамі “Хрыстос уваскрос!”.

Па-другое, вялікая хрысціянская радасць,

# вачамі чытача




патрыятызм і любоў да Бацькаўшчыны адчуваюцца ў кожным слове прапанаванага нам артыкула а. Уладаса "Бачу Тваё ўваскрасенне". "Зь вялікім сьвятам радасьці і ажыўленьня вітаем вас! Радуйся, Бацькаўшчына! У тваю душу ўліваецца надзея – вясна прыйшла на тваю зямлю," – проста не магу не прывесці тут гэтыя цудоўныя словы (правапіс "Голаса Душы" я захавала).

I яшчэ адно назіранне. Хачу адзначыць, што 1990-я гады ў гісторыі нашага грамадства і асабліва ў гісторыі Касцёла ў Беларусімяневельміцікавяць. I гэта старонка, прысвечаная кс. Уладасу Пятрайцісу, у той форме, у якой яна атрымалася ў аўтараў і стваральнікаў "Весніка", была цікавая і карысная мне і з гэтага пункту гледжання – "заліхвацкія дзевяностыя" ў грамадстве і адраджэнне Касцёла ў Беларусі. Я калісьці напішу на гэту тэму артыкул (можа, і не адзін), а вам прапаную перачытаць пятую старонку красавіцкага "Весніка" і звярнуць увагу на тое, якімі словамі а. Уладас звяртаецца да вернікаў у 1991 годзе: "Нас узяло ў палон усё, што адбываецца вакол. Мы і не заўважаем, як робімся рабамі замшэлых ідэй, рабамі дабрабыту, якога нам усё не хапае, рабамі пустых паліц у крамах і запоўненых даверху нашых кладовак. Нам усё мала, мала і мала. I забываемся, што жывём мы зусім не ў тэатры, дзе любоў і нянавісць – усяго толькі ролі, якія іграюць іншыя, а мы ім пляскаем у ладкі. Жывём не ў кінафільме, дзе перамагаюць або паміраюць акцёры. Мы – дзеці Бога і жывём на сваёй зямлі, якую нам вызначыў Ён, і кожны з нас адказвае за свой лёс, за лёс нашых дзяцей, за лёс Бацькаўшчыны".

I калі ўжо загаварылі на гэту тэму, скажу вось яшчэ што. На сайце catholicnews.by сустрэўся мне артыкул кс. Віктара Місевіча **"Пра Эрдагана, Еўраньюс і гісторыю Касцёла ў Беларусі"**, у якім аўтар задаецца пытаннем: чаму няма падручнікаў па гісторыі Касцёла ў Беларусі? Я таксама лічу, што патрэбна сабраць, прааналізаваць і распавесці людзям інфармацыю пра няпросты лёс святароў на нашай зямлі, пра гісторыю святынь, пра каталіцтва і яго ўплыў на развіццё грамадства ў нашай краіне. I думаю нават, што калі стану сур'ёзным чалавекам з дастатковымі ведамі і культурным узроўнем, змагу паўдзельнічаць у стварэнні хаця б суб'ектыўнага навукова-папулярнага выдання па гісторыі Касцёла ў Беларусі. I 1990-я гады ў гэтай гісторыі, якія прайшлі на маіх вачах і перажыты мной разам з двума касцёламі на маёй малой радзіме, адлюструюцца ў такім гіпатэтычным выданні асабліва яскрава. А пакуль прапаную заняцца падрыхтоўкай кнігі пра лёс Касцёла ў Беларусі камусьці з Мёраў, бо, як мне здаецца, з культурным узроўнем, нацыянальнай свядомасцю і верай у іх усё ў парадку ўжо сёння.

Летні "Веснік" паведаміў мне пра 230-гадовы юбілей касцёла ў Германавічах і пра святога Губерта, які пасяліўся ў Камаях. Таксама летам біскуп Алег Буткевіч асвяціў касцёл святога Антонія ў Віцебску, наведаў з пастырскай візітацыяй парафіі ў Лынтупах, Камаях і Дрысвятах, асвяціў хлеб і мёд у гонар святога Лаўрэна і прысвяціў Віцебскую дыяцэзію Маці Божай Валадарцы Азёраў.

Восенню "Каталіцкі Веснік" парадаваў мяне з'яўленнем новага святара ў Віцебскай дыяцэзіі, сцвярджэннем, што нават кветкі хваляць Пана, і цікавым праектам пра пакліканні.

Ёсць яшчэ шмат матэрыялаў, якія былі цікавымі і карыснымі для мяне, і шмат артыкулаў, якія зацікавілі іншых чытачоў. "Каталіцкі Веснік" – дыяцэзіяльнае выданне, газета дзіцячага шасцігадовага ўзросту, якая адлюстроўвае жыццё Касцёла ў зусім маладой яшчэ Віцебскай дыяцэзіі (ёй толькі-толькі споўнілася васямнаццаць). Я прагартала 11 нумароў "Весніка" 2017 года і зразумела, што гісторыкі Касцёла, якія будуць пісаць свае працы праз 50, 100, 200 гадоў, будуць выкарыстоўваць і гэту крыніцу, і ім будзе што адсюль узяць.

Але падзякаваць "Весніку" і яго стваральнікам хачу за штосьці іншае. Я даўно чытаю гэту газету і выпісваю яе (я заўсёды выпісваю газеты, якія мне падабаюцца, так я матэрыяльна падмацоўваю наша сяброўства, хаця паштальёнцы, думаю, цікава, як такія розныя выданні ўжываюцца ў адной скрыні). Апошнія дзесяць гадоў майго жыцця (у першым артыкуле для "Весніка" я назвала іх гадамі мінімуму каталіка, які лічыць сябе сапраўдным каталікам) узмацненнем веры і паглыбленнем ведаў пра яе займалася ў асноўным каталіцкая прэса – два часопісы, адна дыяцэзіяльная газета і некалькі сайтаў. I галоўная "зброя", якую выкарыстоўваюць рэлігійныя СМІ, – гэта **Слова**.

Аўтар шукае патрэбнае **Слова**, укладае ў яго свае думкі, перажыванні, жыццёвы вопыт і ахвяруе яму свой час. Рэдактар і карэктар узгадняюць гэта **Слова** з канцэпцыяй выдання, аб'ектыўнай рэчаіснасцю і нормамі сучаснага (часцей беларускага) правапісу. Тэхнічны рэдактар прыводзіць гэта **Слова** ў зручную і прывабную для цябе, чытач, форму. Затым набранае і звярстанае на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі **Слова** перадаецца па каналах сувязі ў друкарню і размнажаецца спосабам афсетнага друку да 3000 экзэмпляраў. Пасля гэта надрукаванае **Слова** трапляе ў паштовую скрыню або на паліцку твайго касцёла, а адтуль, спадзяюся, даходзіць да твайго сэрца і розуму, прыносіць плён, дапамагае табе разабрацца ў цяжкіх пытаннях веры, а галоўнае – адкрывае табе, мой паважаны чытач, шлях да Нашага Пана, дапамагае яшчэ больш любіць Яго і нараджае ў тваёй душы новыя прыгожыя словы, словы падзякі, хвалы або шчырай просьбы, якія не патрэбна ўзгадняць з нормамі правапісу ці перадаваць па каналах сувязі. Дастаткова ціха прамовіць – Яму аднаму, без сведкаў, сам-насам. Гэта і ёсць сапраўдны плён той працы над **Словам**, пра якую я табе толькі што паведаміла. Таму, чытач, не саромейся, аддавай Яму самыя лепшыя словы! I чытай нашыя калі-нікалі.

**P. S.** Тут я дзякую а. Яўгену Голубу OFMConv, які дапамагае мне падбіраць дакладныя словы і адлюстроўваць рэчаіснасць, якую да канца не разумею. Але падзякаваць хачу не за разгорнутыя кансультацыі, а проста за тое, што ён ёсць.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Каталіцкі касцёл на Віцебшчыне ў часы атэізму

## Паводле матэрыялаў палявых даследаванняў

**Цяпер кожны вернік у Беларусі можа без усякай перашкоды наведаць храм: паслухаць слова Божае, паспавядацца і прыняць Камунію, павянчацца, ахрысціць дзіця...**

**Наталля Мізярска**



**Касцёл у Опсе, Відзаўскі дэканат**

Аяшчэ не так даўно, у мінулым стагоддзі, гэтага зрабіць было амаль немагчыма. Савецкая ўлада вяла жорсткую барацьбу супраць рэлігіі: садзейнічыла знішчэнню святынь і жорсткаму праследу вернікаў. Аднак, нягледзячы на цяжкае становішча і забароны, людзі не страцілі веру ў Бога. Нездарма ў народзе кажуць: "Наша моц у нашай колькасці". Менавіта там, дзе вернікаў было больш, лягчэй было пераадолець цяжкасці і наведваць касцёл.

Пра падзеі савецкіх часоў успамінае **Марыя Казіміраўна Любачка**, юнацкія гады якой прайшлі ў в. Опса Браслаўскага раёна: "Касцёлы грамілі яшчэ раней, чым я нарадзілася. У мой час касцёлы ператварылі ў склады, дзе сядзелі галубкі, паўсюдна гадзілі. Уціск вернікаў прыйшоўся на 1980-е гады. Мае матка і бацька заўсёды выклікаліся ў школу на бацькоўскія сходы, бо я старалася наведваць касцёл. Наш класны кіраўнік пастаянна казала, што ў яе ёсць чорны сшытак, і папярэджавала нас: хто пойдзе ў касцёл на Вялікдзень, будзе запісаны ў гэты сшытак. Але ўлічваючы, што такіх, як я, было з класа чалавек дванаццаць, г.зн. большасць, то напалохаць нас было цяжка.

Кожны раз пасля наведвання касцёла маіх бацькоў выклікалі ў школу, ушчувалі і папярэджвалі. А потым, у 1989 г., калі я заканчвала школу, ужо пачыналася такая своеасаблівая свабода веры, аднак усе мяне яшчэ палохалі, што я не закончу школу. На сённяшні розум я не магу зразумець, як гэта не закончыць школу? Напэўна, былі іншыя ўстановы, каторыя патрабавалі, каб вучань выпускаўся з адзнакай са школы, а рэлігійная самасвядомасць у дакуменце аб базавай ці сярэдняй адукацыі не была ўказана. Мы баяліся, хваляваліся, што так будзе, але ж так былі выхаваныя, што сядалі ў нядзелю ў аўтобус і ехалі ў Браслаў у касцёл".

У некаторых рэгіёнах Віцебшчыны савецкая ўлада вельмі моцна ўкаранілася. Так, напрыклад, ва Ушачах не дзейнічалі ні праваслаўная царква, ні касцёл. На месцы былога кляштара базыльянаў, пазней царквы, якую разбурылі ў савецкія часы, на першым паверсе быў пабудаваны Дом культуры, дзе праводзіліся сходы камуністаў з антырэлігійнай накіраванасцю. Людзі хрысцілі дзяцей патаемна, баючыся, каб пра гэта не даведаліся мясцовыя ўлады. Па ўспамінах мясцовай жыхаркі вядома, што яна патаемна ахрысціла сваіх дзяцей ноччу ў Празароцкай царкве і папрасіла бацюшку не пісаць імёны дачок у царкоўную кнігу. Прычыны зразумелыя: жанчыну маглі звольніць з працы, а дочкі цярпелі б ганенні ў школе.



**Касцёл ва Ушачах, пачатак аднаўлення**

У 1990-х гадах пачалося адраджэнне парафій і касцёлаў. Не абмінула гэта і Віцебскую вобласць. "Калі я паступіла вучыцца ў 1991-1992 гг., камітэт камсамолу закрыўся і ў нас проста забралі білеты. Мы нават не дачакаліся таго ўзросту, калі можна было выходзіць з камсамолу. Адчыняліся касцёлы. Опсаўскі касцёл быў вельмі сапсаваны, я не думала нават, што яго можна вярнуць да такога стану, у якім ён зараз знаходзіцца. Але ўлады самі навярнуліся, таму што захацелі зрабіць канцэртную залу: вычысцілі, уклалі вялікія грошы і зрабілі гэтую залу. Памятаю, што галоўны алтарны вітраж упрыгожвала гітара і скрыпка, якія былі зроблены са шкла. Прыехаў аднойчы гурт з Полацка выступаць, які вельмі прыгожа спяваў акапэльныя творы. І мы думалі, што гэтая канцэртная зала так ужо і будзе ў маёй Опсе. Але потым пайшлі зборы подпісаў, дзве-тры вёскі і ўжо паўтары тысячы вернікаў. Канцэртная зала нядоўга існавала, і для ксяндза, які прыехаў да нас працаваць, было ўжо ўсё падрыхтавана: усё заслалі прыгожай тканінай, паставілі крыж з распяццем – і алтар быў гатовы", – успамінае **Марыя Казіміраўна Любачка**.




**Касцёл ва Ушачах, пачатак XX ст.**

Пра адраджэнне каталіцкай парафіі ва Ушачах вядома са слоў **Валянціны Пятроўны Відзевіч**: "Калі мы прехалі сюды з сям'ёй з Гродзеншчыны, былі ўжо 1990-я гады. Касцёл наш стаяў разбураны, куды не адзін дзясятак гадоў ушачане зносілі смецце. Можна б было кудынебудзь паехаць у царкву або касцёл, але людзі баяліся, быў нейкі "астаткавы страх з гадоў камунізму". Напачатку мы збіраліся на святую Імшу ў хаце Шкіндзераў, куды да нас даязджаў ксёнз Мечыслаў з Лепеля на матацыкле. Аднойчы пасля такой Імшы мы ў сваіх малітвах прасілі Бога аб патрэбах. І адна нашая парафіянка – Марыя Турло – сказала: "Прашу Пана Бога, каб касцёл наш адбудаваўся". Мне нават прыкра зрабілася, бо гэта такая шыкоўная просьба дзеля дзесяці чалавек!?

Пасля малітвы засталіся піць чай. Мужчыны нашыя кажуць: "Трэба было б выкінуць смецце з касцёла". Так пагаварылі і вырашылі сабрацца на навядзенне парадку ў найбліжэйшы час. Праз пару дзён я пачула нейкі грукат у касцёле, бо жыла недалёка ад яго. Некалькі нашых парафіян ламамі і рыдлёўкамі ўздымалі смецце, прыйшлі і ўвогуле людзі з Ушачаў "па закліку сэрца". Рукамі цяжка было ўсё вынесці, таму папрасілі экскаватаршчыка. І калі ў чарговы раз да нас на Імшу завітаў ксёндз Мечыслаў і мы паказалі вынікі нашай працы, ён усміхнуўся і сказаў: "Веру зараз, што ва Ушачах касцёл будзе адноўлены!"



**Касцёл ва Ушачах, сучасны стан**



## Божае Нараджэнне. Тэст

**“Каталіцкі Веснік” падрыхтаваў для Вас святочны тэст на тэму Божага Нараджэння.**

1 Родзіч Хрыста, які нарадзіўся на паўгода раней за Езуса:



**А.** Захарыя;
**Б.** Ісаак;
**В.** Ян Хрысціцель.

2 Колькі анёлаў абвясціла пастухам пра нараджэнне Збаўцы ў Бэтлеемскай стайні?



**А.** Мноства;
**Б.** Два;
**В.** Адзін.

3 Адкуль прыйшлі каралі, каб пакланіцца немаўляці Езусу?



**А.** З Егіпта;
**Б.** З Усходу;
**В.** З Захаду.

4 У якіх Евангеллях апісана гісторыя нараджэння Езуса?



**А.** Ва ўсіх Евангеллях;
**Б.** У Евангеллі паводле Лукі і ў Евангеллі паводле Мацвея;
**В.** У Евангеллі паводле Лукі і паводле Марка.

5 Адзін з вялікіх прарокаў, які прадказаў нараджэнне Хрыста:



**А.** Ерамія;
**Б.** Ілля;
**В.** Ісая.

6 Які святы ўпершыню арганізаваў святочную стайню, “жывую інсцэніроўку” нараджэння Езуса ў італьянскім горадзе Грэччо ў 1223 годзе?



**А.** Святы Францішак Асізскі;
**Б.** Святы Ян Боска;
**В.** Святы Тамаш Аквінскі.

7 Слова вігілія лацінскага паходжання (ад лац. “vigilia”). А што яно азначае?



**А.** Чуванне, трыванне;
**Б.** Радасць;
**В.** Прыйсце.

8 Калі заканчваецца перыяд Божага Нараджэння?



**А.** У свята Хросту Пана;
**Б.** Ва ўрачыстасць Аб'яўлення Пана;
**В.** У свята Ахвяравання Пана.

Адказы на стар. 16

*Падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

# Ксёндз Алег Пятрашка і яго пакліканне: “Ніводзін чалавек не зможа даць тое, што я маю ў цішыні свайго святарскага сэрца”



**У Лядску, што ў Шчучынскім раёне, у парафіі Святога Станіслава, біскупа і мучаніка, служыць кс. Алег Пятрашка. Сёння святар расказаў чытачам “Каталіцкага Весніка” пра свой шлях да святарства.**

Ксёндз Алег нарадзіўся ў 1980 годзе ў Вільнюсе ў простай савецкай сям'і. Пра веру ў сям'і святар згадвае наступнае: *“Мае бабулі і дзядуля, якіх памятаю, былі пабожныя, аднак вера ў маёй сям'і не была на першым месцы. Не памятаю нават, ці вісеў у нас дома крыж або абраз. Такія святы, як Божае Нараджэнне або Вялікдзень, святкаваліся, але моцнага рэлігійнага ўхілу яны не мелі. Мая сям'я не была атэістычнай. Хутчэй за ўсё такім чынам спецыфічна разумелі рэлігійнасць асабліва тыя сем'і, што жылі ў гарадах”.*

У дзяцінстве хлопчык прыязджаў да бабулі ў Астравецкі раён, дзе бачыў пацёрты ружанец і “замызганы” ад выкарыстання і часу малітоўнік. Гэта былі яго першыя сустрэчы з нечым незразумелым.

Святар успамінае: *“Бабуля заўсёды малілася... А мяне мама вучыла гаварыць “пацеры” перад сном. Я не задаваў шмат пытанняў на гэтую тэму. Раз так трэба, значыць трэба. Хаця часам пытаўся: “А ці бачыць мяне Бог, калі фіранкі ў пакоі завешаныя?”*

Разважаючы над сваім пакліканнем, кс. Алег заўсёды ўспамінае адзін цікавы момант, своеасаблівую сустрэчу з Богам, які тады яго паклікаў: *“Гэта было ў маім родным Вільнюсе. Мы з мамай вярталіся ў свой спальны раён ад яе сястры, якая жыве і дагэтуль недалёка ад цэнтра, а менавіта ад Вострай Брамы. Тады зайшлі ў касцёл. Памятаю, як вялікімі вачыма я глядзеў на міністрантаў, што прыслугоўвалі і званілі ў званочак. Увогуле, гэта было вельмі глыбокае, пазітыўнае ўзрушэнне. І яшчэ пройдзе не адзін год, пакуль засеянае слова Бога пачне прарастаць ...”*

У студзені 1991 года сям'я святара пераязджае жыць у Гродна. Хлопчыка запісваюць на падрыхтоўку да Першай Камуніі. Чарговы раз у яго з'яўляецца жаданне стаць міністрантам: *“Заходжу ў касцёл, гэта была гродзенская катэдра, якая ўражвае сваёй прыгажосцю і веліччу. І зноў абуджаецца гэтае пачуццё... Як у 12-цігадовага Езуса, Які застаўся ў Іерусаліме, Які сказаў бацькам: “Хіба Я не павінен быць там, у тым доме, што належыць Майму Айцу?” Зноў з'яўляецца моцнае жаданне стаць міністрантам. Але спачатку трэба прыступіць да Першай Камуніі. Падрыхтоўка не была доўгай: тры летнія месяцы – і ўрачыстасць сустрэчы з Езусам у Святой Камуніі і споведзі”.*

Потым быў рост і падзенні, узроставыя цяжкасці... Але хлопчыка заўсёды вабіў касцёл. Пасля школы ён кідаў партфель, сядаў на тралейбус ці аўтобус – і ён у цэнтры: *“Вось за амбонай біскуп Гродзенскі, вось усе ўрачыстасці з яго ўдзелам. Шмат святароў, а кожную нядзелю – натоўпы клерыкаў, што прыходзілі на галоўную Імшу ў касцёл”.*

*“Потым адбылася першая важная размова з бацькамі. Гэта быў клас шосты, магчыма, сёмы. Яны пачулі такія словы: “Я думаю пайсці ў семінарыю”. З іх боку не было жалю або папрокаў. Здаецца, яны прынялі гэта вельмі спакойна. У той час яны ўжо ўдзельнічалі ў кожнай нядзельнай Імшы”,* – гаворыць святар.

Вялікі ўплыў аказалі на выбар хлопца душпастыры, што служылі ў тыя гады ў яго парафіі. Настаяцелем тады быў кс. Юзаф Трубовіч, а перад паступленнем юнака ў семінарыю – цяперашні біскуп Антоній Дзям'янка. У канцы 90-х гадоў прыходзілі на службу святары, выпускнікі Гродзенскай семінарыі.

*“Вядома, кожны ўклаў сваё,* – адзначае кс. Алег. – *Былі і такія моманты, калі не заўсёды бачыў годны прыклад. Гэта дапамагала глядзець на свет без ружовых акуляраў”.*

Калі хлопец паступіў у семінарыю, адзін са старшакурснікаў задаў клерыкам пытанне, што такое пакліканне да святарства? Тады ўсе падбіралі вельмі прыгожыя словы, і яны былі праўдзівымі. Зараз, калі святар задае сабе гэтае пытанне, то адказвае наступным чынам: *“Гэта тое, што дазваляе дзякуючы бязмежнай Любові Хрыста дакрануцца да Яго Любові вельмі незвычайным спосабам. Чаму незвычайным? Таму што Ён, нягледзячы на ўсе мае грахі і нявернасць, увесь час кажа мне: “Ідзі за мной! Я чакаю цябе! Я ад цябе ніколі не адракуся і не адмоўлюся! Я чакаю цябе ля Майго крыжа і Майго пустога гроба! Я табе даю свайго Духа, Параклета!” І ты гэта адчуваеш, чуеш. І як не адказаць на гэтае запрашэнне Езуса?”*

Ксёндз Алег лічыць, што пакліканне, як пісаў святы Ян Павел ІІ, – гэта “дар і таямніца”: *“Дар, бо ніхто з нас гэтага не заслужыў. Таямніца, таму што і так пакліканне да святарства я буду адкрываць да канца сваіх дзён. Заўсёды нешта новае і бязмежнае. Гэта дае мне сілы жыць у свеце. Хоць для многіх людзей незразумела, як так можна: адмаўляцца ад многага, зямнога. А я ведаю, што ніводзін чалавек не зможа даць мне тое, што я маю ў цішыні свайго святарскага сэрца”.*

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

# Сайт беларускага брэвіярыя і інтэрв'ю з айцом Андрэем

**2 снежня распачаў працу сайт беларускага брэвіярыя lh.catholic.by, а ў мабільны дадатак "Малітоўнік", які пад кіраўніцтвам айца Андрэя Сідаровіча MIC у 2015 годзе стварылі вернікі з Мінска Цігран Саркісян, Арцём Баёк і Яўген Карачынскі, была дададзена Літургія гадзінаў пабеларуску.**

У сённяшнім нумары "Каталіцкі Веснік" паразмаўляў з айцом Андрэем і камандай валанцёраў, якія займаліся размяшчэннем брэвіярыя ў лічбавай прасторы.

**– Айцец Андрэй, раскажыце, калі ласка, пра ідэю стварэння праекта "Лічбавы фармат Літургіі гадзінаў на беларускай мове"?**

– У нашым дадатку "Малітоўнік" амаль ад пачатку быў брэвіярый на рускай мове. Марай сталася зрабіць беларускую версію. Вядома, што яшчэ некалькі гадоў таму не было нават папяровай версіі, таму планы заставаліся планамі. Аднойчы я выпадкова пацікавіўся ў айца Алега Шэнды OFMCap, ці робіцца штосьці ў гэтым напрамку. Са здзіўленнем пачуў, што так! Мая рэакцыя была наступнай: "Без нас!?" Далей хуткая дамоўленасць з камандай пра супрацоўніцтва і ліст ксяндзу Яну Крэмісу, перамовы, падпісанне дамовы айцоўмарыянаў з Канферэнцыяй Біскупаў і, безумоўна, праца!

**– Вы з'яўляецеся адным з каардынатараў гэтага праекта. У чым заключалася Ваша асноўная праца?**

– Мая задача – падзяліць тэксты з кожнага тома на фрагменты і паставіць нумары, згрупаваць у асобныя файлы, запоўніць выніковую табліцу так, каб сайт аўтаматычна адлюстроўваў малітвы на ўвесь дзень. Тут таксама варта сказаць пра тых, хто на папярэдніх этапах працаваў над брэвіярыем. Гэта гады працы "Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла пры ККББ" на чале з кс. Янам Крэмісам. Таксама вялікія намаганні прыклалі браты-капуцыны ў справе выдання друкаванай версіі.

**– Колькі часу пайшло на тое, каб стварыць электронны брэвіярый?**

– Ад моманту падпісання дамовы прайшло сем месяцаў, а самая інтэнсіўная праца трывала чатыры месяцы. Спадзяваліся, што справімся крыху раней. А паколькі мы каманда валанцёраў, то трэба ўлічваць тое, што жыццё ўносіць свае карэктывы: змена працы, нараджэнне дзіцяці, хвароба і іншае. Праца над электроннай версіяй працягваецца, бо аб'ём тэкстаў вялікі. Таму наступны год будзем занятыя якраз гэтым. Можа, толькі інтэнсіўнасць будзе меншая, чым перад запускам праекта.

**– Распавядзіце крыху пра Вашую каманду.**

– Мы – сапраўды каманда! І не пабаюся сказаць "Дрымцім" – "Каманда мары". Я ганаруся маімі хлопцамі і дзяўчатамі. Мы патрэбныя адно аднаму для рэалізацыі такіх складаных праектаў, як "Малітоўнік" і электронны брэвіярый. У нашай камандзе два айцішнікі – Цігран і Арцём. Цігран Саркісян – распрацоўшчык дадатку, тэхнічна яго абслугоўвае. Яго заслугай з'яўляецца раздзел "Біблія", якому ён прысвяціў неймаверную колькасць часу. Арцём Баёк – аналітык і адмысловец па табліцах. Гэта дазваляе нам смела брацца за складаныя працы, дзе ёсць зменныя тэксты на кожны дзень. Таксама ён стваральнік усіх інтэрнэт-старонак, з якіх мы спампоўваем у дадатак матэрыялы. Старонка брэвіярыя – гэта яго праца.

Вольга Жвірко правярае ўсе тэксты, якія публікуем. Без яе руплівасці і ахвярнасці не было б праекта "500-годдзе беларускай Бібліі. Святкуй разам з марыянамі". Дарэчы, тэксты разважанняў штодзённа былі даступныя на сайце catholicnews.by. Таксама з ініцыятывы Вольгі мы прысутнічаем у сацсетках.

Маргарыта Гедзюн і Юліяна Самакар – на гэтых дзяўчат лёг цяжар апрацоўкі тэкстаў для электроннай версіі. Каб было зразумела, я высылаю падрыхтаваныя файлы ў фармаце Word, а ім трэба зрабіць тэкст адпаведным для сайта. Гэта няпростая працэдура патрабуе пільнасці і часу.

Айцец Павел Федаровіч MIC – духоўны апякун каманды пасля майго пераезду з Мінска ў Расію. У мінулым годзе ён ахвярна пісаў разважанні на кожны дзень. У праекце электронны брэвіярый ён з'яўляецца маім супервайзерам, кантралёрам *(усміхаецца)*. Гэта значыць, перад публікацыяй тэкстаў у электроннай форме звярае змест з кніжнай версіяй.

**– Ці плануецца ствараць іншы электронны хрысціянскі праект на беларускай мове ў будучым?**

– Наш асноўны праект – гэта дадатак "Малітоўнік". Мы прасілі тэксты брэвіярыя менавіта для "Малітоўніка". Нават сайт lh.catholic.by – гэта пабочны эфект, дадатковы прадукт. Кожны год мы дадаём штосьці новае, унікальнае. Наступны год – гэта далейшая праца над брэвіярыем. Распачаўся другі год праекта штодзённых разважанняў да чытанняў дня. Дарэчы, дзякуй братам-капуцынам, якія сёлета пасля марыянаў працягваюць пісаць разважанні. Рабіць больш і хутчэй не дазваляе фармат: мы – каманда энтузіястаў, усё, што рабілі, – за бясплатна. Гэта прыгожая ідэя – быць валанцёрам. Але яна таксама ў нечым абмяжоўвае рэалізацыю розных задумак. Напрыклад, наш Арцём ужо двойчы тата! Мы не можам яго забраць у жонкі і дзяцей *(усміхаецца)*!



**Каманда валанцёраў разам з айцом Андрэем Сідаровічам** *(трэці злева)*

# мабільны дадатак “Малітоўнік”: Сідаровічам і валанцёрамі

## Каманда валанцёраў пра сваю дзейнасць



**Юліяна Самакар**, ***тэкставы рэдактар:***

– У распрацоўцы дадатку я першапачаткова займалася рэдагаваннем тэкстаў, а таксама “заліваннем” іх на сайт. Часам здаецца, што праца простая і асаблівa не важная, але яна патрабуе вельмі шмат увагі, часу і сілы волі.

Важна, каб малітвы былі пад рукой, таксама як і дадаткі сацсетак. Бо калі хочаш напісаць сябру, папрасіць у каго-небудзь дапамогі або падзяліцца радаснай падзеяй, то адкрываеш Укантакце, Facebook або Instagram. А тут дзелішся, молішся або дзякуеш Богу таксама проста.



**Маргарыта Гедзюн**, ***тэкставы рэдактар:***

– Родам я з Браслаўшчыны. Калі прыехала ў Мінск, пазнаёмілася з каталіцкімі скаўтамі. Мы падарожнічалі па Беларусі, пазнавалі Бога. Служыла ў “Аазісе”, дзе сустрэла айца Андрэя. Ён пазнаёміў мяне з усімі ўдзельнікамі каманды. Свет не стаіць на месцы, усё развіваецца вельмі хутка. Праект “Лічбавы фармат Літургіі гадзінаў на беларускай мове” таксама таму пацвярджэнне. Ды і сам дадатак “Малітоўнік” – гэта вялікі крок насустрач жывому Богу.

Усе мы прарабілі вялікую працу. Я, напрыклад, займалася рэдагаваннем тэкстаў. Асаблівых цяжкасцяў не было, проста патрабавалася ўседлівасць і ўважлівасць.



**Вольга Жвірко**, ***карэктар:***

– Электронны варыянт Літургіі гадзінаў ствараны выключна на падставе афіцыйных тэкстаў, зацверджаных Касцёлам. Таму карэктуры на гэтым этапе не было. А ў дадатку “Малітоўнік” рэалізаваны адразу некалькі вялікіх праектаў: усяго за пару гадоўададзена Біблія з планамі чытання, штодзённыя літургічныя чытанні і разважанні да іх, а зараз і брэвіярый у электронным варыянце. Мая праца датычылася якраз папярэдняга праекта – падрыхтоўкі штодзённых разважанняў над Божым словам. Айцец Андрэй дамаўляўся з аўтарамі і перакладаў тэксты, а я рабіла іх рэдактарскую апрацоўку. Адначасова з разважаннямі мы запусцілі яшчэ адзін важны праект – стварылі старонкі “Малітоўніка” ў сацыяльных сетках, імі займаюся я. Гэта добры спосаб расказаць пра дадатак. За год колькасць нашых падпісчыкаў перавысіла дзве тысячы чалавек.



**Цігран Саркісян**, ***распрацоўшчык дадатку “Малітоўнік”:***

– Мабільны дадатак пачалі распрацоўваць больш за два гады таму. Спачатку з малітваў, якія бралі з сайта catholic.by. Потым дадалі чытанне дня. На той момант таксама бралі з сайта. Але потым перарабілі, паколькі часта яно адсутнічала. Пазней вырашылі дадаць Літургію гадзін. Таксама на той момант не было беларускай версіі, працавалі з рускай. Тэксты нам прапанавалі рускамоўныя. Айцец Андрэй узначаліў гэты кірунак. Ён адрэдагаваў і выправіў шмат тэкстаў, дапрацаваў іх разам з камандай. Пасля чаго іх “залілі” на сервер і ў дадатак. Далей прыступілі да Бібліі з каментарыямі. Працавалі ўсе камандай, шмат трэба было вычытаць, размесціць, уставіць каментарыі і гэтак далей. Пазней дадалі каментарыі да чытанняў дня і вось нядаўна беларускую версію Літургіі гадзінаў. Гэта доўгая і напружаная праца. Зараз актыўных карыстальнікаў – 3504, агульная колькасць спампоўванняў – 7500. Унікальных наведванняў у дзень каля 1000.



**Арцём Баёк**, ***праца над сайтам:***

– Маёй задачай было стварыць вэб-версію брэвіярыя (інтэрнэт-старонку) і “заліць” туды падрыхтаваныя для ўстаўкі файлы. Ад таго, наколькі правільна сфармаваная старонка і наколькі аптымізавана база дадзеных і доступ да яе, залежыць не толькі якасць сайта, але і дадатку “Малітоўнік”, які не захоўвае ў сабе ўсе тэксты, а забірае іх са старонкі lh.catholic.by.

Сайт працуе наступным чынам: два кніжныя тамы разбітыя на больш чым 4000 унікальных частак, якія затым раскіданыя па 47 табліцах у асобнай базе дадзеных. На асноўнай старонцы сайта прапісана, у якой паслядоўнасці павінны паказвацца дадзеныя з гэтых табліц, а таксама пры якой умове іх паказваць, а пры якой не. А вось зразумець, які тэкст павінен дэманстравацца канкрэтна сёння (а гэта можа быць адзін з 235 тэкстаў, якія знаходзяцца ў дадзенай табліцы), дапамагае табліца, якую падрыхтаваў а. Андрэй. У ёй ён праставіў больш за 4200 нумароў, па 55 на кожны дзень, якія паказваюць, каторы фрагмент узяць з пэўнай табліцы на канкрэтны дзень. Гэта неверагодна складаная для стварэння сістэма, але яе перавага ў тым, што аднойчы загружаныя тэксты будуць выкарыстоўвацца многія гады. Пры гэтым, каб адаптаваць брэвіярый да наступнага года, дастаткова толькі дапісаць лічбы ў зборную табліцу: ніякіх выпраўленняў у базе і на сайце не патрабуецца. Таксама перавага такога метаду перад падрыхтоўкай цэлай старонкі на кожны дзень у прастаце змены тэкстаў. Бо калі трэба памяняць адзін з чатырох тэкстаў псальма ў “Закліку”, то трэба зрабіць гэта толькі ў адным месцы, а не ў файлах для кожнага чацвёртага дня.

Хочацца таксама адзначыць, што не заўсёды малітоўнік пад рукой, а на брэвіярыі навучыцца маліцца даволі складана. Наш сайт і дадатак вырашаюць адразу дзве гэтыя праблемы, бо што, як не смартфон, заўсёды пад рукой? А з гатовымі тэкстамі, якія самі мяняюцца кожны дзень, можна быць упэўненым, што чытаеш менавіта тое, што трэба. І пры гэтым цалкам бясплатна.

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***

## Ці прымаеце Вы святара па калядзе?

**Хутка распачнецца душпастырскае наведванне сем’яў – каляда. “Каталіцкі Веснік” пацікавіўся, ці прымаюць вернікі святара па калядзе.**

**Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў сацыяльных сетках: Facebook, Укантакце, Аднакласнікі:**



Так, заўсёды чакаем і запрашаем святара – 311 адказаў
Прымаем святара часта, але не заўсёды – 24 адказы
Ніколі не прымаем ксяндза па калядзе – 24 адказы

**Усяго – 359 адказаў.**

**Каментарый чытачкі “Каталіцкага Весніка” на Фэйсбуку:**

**Яўгенія Багданава:**

– Ніколі не прыходзіў, але ў гэтым годзе можа прыйдзе...

**Каментарый чытачкі “Каталіцкага Весніка” на Аднакласніках:**

**Марына Рабэцкая (Кумпіцкая):**

– Ад прадзедаў спакон вякоў мы прымаем заўсёды усіх святароў.

*Падрыхтавала*
***Ірына Радзевіч***

# Каляндар на студзень



**1 студзеня – Святой Багародзіцы Марыі.**

Дзева Марыя лічыцца самай вялікай хрысціянскай святой. Марыя нарадзіла Езуса пасля беззаганнага зачацця, аднак і сама Яна была таксама плёнам беззаганнага зачацця. Гэты факт каталіцкія тэолагі разглядаюць як лагічную ўмову, якая падрыхтавала Яе да ролі Маці Збаўцы. Тэалагічная дактрына Рыма-Каталіцкага касцёла прызнае той факт, што Дзева Марыя з'яўляецца пасрэдніцай паміж Езусам Хрыстом і ўсім чалавечым родам, бо Яна – Маці Збаўцы, праз Яе прыйшла ласка да людзей.

**6 студзеня – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі).**

Касцёл успамінае ў гэты дзень вешчуноў, што прынеслі Дзіцятку Езусу свае дары: золата, ладан і смірну. Касцельная традыцыя называе гэтых вешчуноў таксама каралямі (адсюль іншая назва свята – Тры Каралі), а іх пакланенне сімвалізуе пачатак Божага Аб'яўлення язычнікам народам, прадстаўнікамі якіх яны былі. Колькі дакладна было ў Бэтлееме вешчуноў, біблейская гісторыя не гаворыць, але свету вядомыя ўсяго тры дары-скарбы, і таму хрысціяне здаўна лічаць, што вешчуноў было таксама трое. Пазней традыцыя, абапіраючыся на апакрыфічнае Евангелле IV ст., называе нават іх імёны – Каспар, Мельхіёр і Бальтазар – і падрабязна апісвае іх выгляд. У гэты дзень прынята асвячаць золата, кадзіла, міру і крэйду, якой потым пазначаюць дзверы жылля, пішучы на іх актуальны год і першыя літары надпісу "Christus mansionem benedicat", што азначае "Хрыстус блаславіў гэты дом": С+М+В+2017

**7 студзеня – Хрост Пана.**

У нядзелю пасля ўрачыстасці Аб'яўлення Пана Касцёл адзначае свята Хросту Пана, якім па традыцыі завяршаецца перыяд Божага Нараджэння. У Евангеллі паводле Мацвея апавядаецца, што Езус прыйшоў з Галілеі над Іарданам да св. Яна, каб прыняць хрост ад яго. Але Ян спыніў Езуса, прамовіўшы: "Гэта мне трэба хрысціцца ад Цябе". Аднак Езус хацеў выканаць усё тое, што было справядліва. Калі Езус выйшаў з вады, нябёсы адкрыліся і Дух Святы ў абліччы голуба сышоў на Яго, а голас з неба прамовіў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я" (пар. Лк 3, 21–22). Падзея Хросту Езуса стала таксама першым у гісторыі выпадкам аб'яўлення ўсёй Святой Тройцы ў бачных постацях (трынітарная эпіфанія), калі Бог Айцец прамаўляе, Сын Божы існуе ў чалавечай постаці, а Дух Святы з'яўляецца ў абліччы голуба.

## На студзень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка**;

**3 студзеня** – дзень нараджэння адзначаюць **Арцыбіскуп Мінска-Магілёўскі Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч**, **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*, **а. Анджэй Юхневіч ОМІ** *(Шуміліна)*;

**4 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*;

**6 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*;

**7 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Павел Кнурэк** *(Лынтупы)*;

**12 студзеня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Мёры)*;

**18 студзеня** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**;

**19 студзеня** – імяніны адзначаюць **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Дрысвяты)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Генадзь Рэйшэль** *(Шаркаўшчына)*;

**21 студзеня** – імяніны адзначае **а. Яраслаў Славамір Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**25 студзеня** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп Юрый Касабуцкі, дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі**;

**28 студзеня** – імяніны адзначае **а. Юры Катовіч OFMCap** *(Докшыцы)*;

**29 студзеня** – імяніны адзначае **кс. Валерый Орсік** *(Орша)*;

**31 студзеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала* **Ірына Радзевіч**

# Святая, якую не зламала адзінота

### Святая Альжбета Сэтан, удава (4 студзеня)

**У літургічных календарах Касцёл кожнаму блаславёнаму і святому дае характэрнае азначэнне: напрыклад, прэзбітар, папа, доктар Касцёла. Гэта кароткая рэкамендацыя акрэслівае стан, у якім чалавек дасягнуў святасці.**

■ **а. Андрэй Сідаровіч МІС**, *Росіца*

Шукаючы чарговую постаць для артыкула, я са здзіўленнем пасля імені Альжбета Сэтан убачыў кароткае і лаканічнае слова: удава!

Альжбета нарадзілася ў горадзе, які сёння з'яўляецца сусветнай сталіцай бізнесу – у Нью-Ёрку, а гэта значыць, у краіне, якая сталася месцам спаўнення жыццёвых мараў і спадзяванняў не аднаго пакалення людзей. Альжбета прыйшла на свет у сям'і паважанага і досыць заможнага чалавека, дырэктара мясцовага шпіталя. Аднак яе дзяцінства было азмрочана ранняй смерцю маці, і Альжбета стала сіратой, маючы толькі тры гады. Мачыха недалюблівала дзяўчынку, і Альжбета ў шаснаццаць гадоў пакінула бацькоўскі дом.

Выйшаўшы замуж за заможнага купца, яна нарадзіла любімаму мужу пяцёра дзяцей. Але шчасце не было доўгім: муж захварэў на сухоты. Каб даць яму шанс папраўіцца, Альжбета забірае яго ў Італію, дзе спрыяльны клімат аблягчаў пакуты чалавека. Праўда, нават гасцінная і цёплая Італія не стала паратункам для хворага, і ён памёр у мясцовым шпіталі.

Менавіта там, у Італіі, Альжбета адкрыла для сябе каталіцкую супольнасць і яе літургічныя абрады. Выхаваная ў пратэстанцкай пабожнай сям'і, яна заўсёды малілася і давярала сябе Богу. Але менавіта ў Італіі праз апеку добрых людзей жанчына па іншаму паглядзела на Каталіцкі Касцёл. Яна проста захапілася адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту і набажэнствамі да Маці Божай.



Ужо вярнуўшыся ў Амерыку, жанчына свядома прыняла каталіцкую веру. Гэта быў адважны крок: ён выключаў Альжбету з грамадства, якое ў сваёй большасці было пратэстанцкім. Ад яе адвярнуліся сябры і знаёмыя.

З часам Альжбета стала важнай постацю для каталікаў Злучаных Штатаў: заснавала першую каталіцкую школу і першую жаночую манаскую супольнасць. Ды і святой у ЗША Альжбета таксама стала першай. На кананізацыю ў 1975 годзе прыехалі не толькі каталікі, але таксама прадстаўнікі ўраду і епіскапальнага касцёла, да якога калісьці належала жанчына.

Альжбета – асоба неймаверна цяжкага лёсу: ранняе сіроцтва, недахоп любові ў дзяцінстве, смерць мужа і ранняе ўдаўства, непрыняцце грамадствам за веру. А з іншага боку, жанчына вялікай любові Бога, Касцёла, жыцця, самой сябе, сям'і і іншых людзей.

# Беларусь у "святых" гербах: Орша

**Герб Оршы адразу выклікае некалькі пытанняў. Першае: так як на ім два сімвалы, то ці гэта не сучасная стылізацыя? А другое: з крыжам больш менш зразумела, што з паўмесяцам?**

■ **а. Андрэй Сідаровіч МІС**, *Росіца*



Адзін з найбольш старажытных гарадоў на беларускай зямлі – Орша (першы ўспамін 1067 г.) свой герб атрымаў разам з Магдэбургскім правам у 1620 годзе. Крыж, які бачым на гербе ў геральдыцы называецца кавалерскім або лапчатым. Адны даследчыкі яго форму і паходжанне звязваюць з рыцарамі тампліерамі, а іншыя – з Тэўтонскім рыцарскім ордэнам. Найчасцей маляваўся чорным колерам. Менавіта такім чорным, а не чырвоным, як у тампліераў. Яго любілі нямецкія рыцары.

Крыж на аршанскім гербе можа быць адзначэннем абароннай моцы горада і яго значэння для Рэчы Паспалітай для абароны дзяржавы ад пагрозы з боку Масковіі. Оршу называлі Смаленскай брамай з-за яе геаграфічнага становішча на шляху з усходу на захад.

Крыж гэта перш за ўсё сімвал хрысціянскага характару горада, які меў незлічоную колькасць каталіцкіх і праваслаўных храмаў. На жаль, толькі некаторыя з іх захаваліся да нашых дзён. Вялікая колькасць была знішчана ў 70-я гады мінулага стагоддзя.

Калі глядзім на паўмесяц, то першыя асацыяцыі з мусульманамі!!! Але вядома, што такое суседства хрысціянскага крыжа і мусульманскага паўмесяца малаверагоднае на адным гербе. Даследчыкі бачаць у жоўтым паўмесяцы сімвал Багародзіцы з апакаліпсіса св. Яна апостала. У адной з візій Ян убачыў жанчыну, апранутую ў плашч, з вянком зорак над галавой і паўмесяцам пад нагамі. Гэты вобраз да сённяшняга дня прысутны ў каталіцкай традыцыі малявання абразоў. Найбольш вядомы на нашых землях прыклад – гэта абраз Маці Божай Вострабрамскай у Вільні.

# Што кажа Касцёл пра грашовыя ахвяраванні?

*Што кажа Касцёл пра грашовыя ахвяраванні? У католіка ёсць нейкія абавязкі або складаць ахвяру можна па ўласным жаданні?*
*Юлія*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD, Міждыяцэзіяльная вышэйшая духоўная семінарыя імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску:**

– Паважаная Юлія! Шчыры дзякуй Вам за пытанне пра ахвяры на патрэбы Касцёла, якое на першы погляд можа здавацца складаным, бо датычыць грошай, размовы пра якія заўсёды лічацца далікатнай матэрыяй. На самой жа справе пытанне важнае і закранае істотны аспект жыцця і дзейнасці Касцёла.

## Касцёл і матэрыяльныя даброты

У душпастырскай Канстытуцыі пра Касцёл чытаем, што *"Хрыстос, адзіны Пасрэднік, устанавіў і няспынна падтрымлівае тут, на зямлі, свой святы Касцёл, супольнасць веры, надзеі і любові, як бачную структуру, пасылаючы праз яго праўду і ласку для ўсіх"* (Gaudium et spes, 8). Паколькі супольнасць Касцёла ўстаноўлена не чалавекам, а самім Богам, слушна можна сцвердзіць, што Касцёл як Містычнае Цела Хрыста – не з гэтага свету, аднак па волі Збаўцы ён існуе на зямлі, у гэтым свеце і карыстаецца часовымі дабротамі настолькі, наколькі гэта ўласціва яго місіі (пар. Gaudium et spes, 76). У сваім навучанні Касцёл, верны свайму Заснавальніку і Галаве, прыпамінае таксама, што часовыя рэчы, у тым ліку вялікія багацці, не мелі б аніякай каштоўнасці, калі б чалавек абапіраўся толькі на іх, забыўшыся пра Бога (пар. Мц 16, 26; Лк 12, 21). Другі Ватыканскі Сабор у дагматычнай Канстытуцыі пра Касцёл прыпамінае назвы, якімі Святое Пісанне азначае рэчаіснасць Касцёла: *Божая будоўля, Дом Бога, скінія Бога з людзьмі, святы Горад, новы Ерузалем* (пар. Lumen gentium, 6). Святы Пётр называе членаў Містычнага Цела Хрыста жывымі камянямі (пар. 1 П 2, 5), што ў сваю чаргу паказвае асаблівае месца і ролю вернікаў у касцельнай супольнасці. Зразумела, што дзеля дасягнення вызначанай Богам мэты Касцёл патрабуе таксама грашовых сродкаў.

## Удзел усіх вернікаў у місіі Касцёла

Каталіцкі Касцёл выконвае сваю місію дзякуючы актыўнаму ўдзелу ўсіх вернікаў, якія праз хрост увайшлі ў яго супольнасць і прынялі на сябе абавязак дбаць пра Касцёл і яго патрэбы, як духоўныя так і матэрыяльныя. Усе вернікі ўдзельнічаюць у місіі Касцёла праз учынкі, малітвы ды апостальства, сужэнскае і сямейнае жыццё, штодзённую працу, адпачынак духу і цела, калі яны здзяйсняюцца ў Духу Святым, нават цяжкасці жыцця, калі яны пераносяцца цярпліва, бо яны становяцца духоўнымі ахвярамі, прыемнымі Богу праз Езуса Хрыста (пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 901). Варта, каб свецкія вернікі разам з духоўнымі і кансэкраванымі асобамі ўсведамлялі неабходнасць ахвярна ды руплівa спрыяць розным чынам у павелічэнні агульнага дабра. Кожны, па меры сваіх магчымасцяў, пакліканы да рэальнага ўплыву на жыццё Касцёла, місія якога мае шмат вымярэнняў. На самой справе, выкананне пасланніцтва Касцёла патрабуе як асабістай прыхільнасці вернікаў, так і матэрыяльных дабротаў і грошай.

## Абавязак дбаць пра патрэбы Касцёла

Аднойз праяў актыўнага ўдзелу ў жыцці Касцёла ёсць дбанне пра патрэбы яго супольнасці. Кодэкс Кананічнага права нагадвае, што вернікі маюць абавязак дапамагаць у патрэбах Касцёла, каб ён меў неабходныя сродкі для Божага культу, апостальства і справў дабрачыннасці, а таксама для годнага ўтрымання распарадчыкаў (пар. кан. 222 § 1). Пра гэты абавязак кажа таксама пяты касцельны наказ, які абавязвае вернікаў клапаціцца аб матэрыяльных патрэбах Касцёла, у адпаведнасці са сваімі магчымасцямі (пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 2043). Неабходна адзначыць, што абавязак дбаць пра патрэбы Касцёла не абмяжоўваецца толькі да эканамічных сродкаў, але мае духоўны характар і праяўляецца таксама праз малітву ды асабістыя намаганні вернікаў па спрыяць пашырэнню Божага Валадарства на зямлі, бо абвяшчэнне Евангелля заўсёды важнейшае за матэрыяльныя даброты. Варта тут нагадаць, што пяты касцельны наказ выплывае з натуральнага права, якое паказвае на патрэбу дбаць пра супольнасць, да якой хтосьці належыць. Грашовыя ахвяраванні служаць не толькі канкрэтнай парафіі ці супольнасці, але ўсяму Містычнаму Целу Хрыста, і такім чынам прычыняюцца таксама да павелічэння дабра тых, хто іх прыносіць у ахвяру. Нельга забываць і пра вялікае дабро, якое робяць дабрачынныя касцельныя ўстановы. Напрыклад "Карытас", арганізацыя якая вядомая сваёй дапамогай патрабуючым ва ўсім свеце.



## Кожная ахвяра – каштоўная

Вартасць ахвярных дароў нельга вымяраць матэматычным чынам, бо яна залежыць ад унутранай паставы таго, хто іх прыносіць. Касцёл не вызначае вернікам аніякіх межаў адносна ахвяраванняў, але кажа, што трэба дбаць пра яго патрэбы паводле сваіх магчымасцей. Ідэал, які варта мець перад вачыма – гэта першы Касцёл, аб'яднаны любоўю. У ім панаваў дух вялікай адказнасці і ахвярнасці (пар. Дзеі Апосталаў, 4,32-37). У Старым Запавеце існаваў абавязак ахвяраваць Богу дзясятую частку ад усяго, што ізраільцяне зарабілі, вырасцілі ці выгадавалі. Некаторыя хрысціянскія супольнасці практыкуюць дзесяціну і сёння. Каталіцкі Касцёл у сферы ахвяраванняў пакідае вернікам свабоду ды выказвае ўдзячнасць за кожны дар, які прычыняецца да агульнага дабра чалавечай супольнасці. Узнёслым прыкладам ахвярнасці ёсць убогая ўдава з Евангелля, шчодрасць якой заўважыў Езус (пар. Мк 12, 38-44). Трэба таксама заўсёды памятаць, што грашовыя ахвяры не заменяць асабістага імкнення чалавека да святасці. Святы Ян Златавуст, які жыў у IV – V ст. навучаў: *"Валадарства нябеснае – не за грошы, і нельга яго за іх набыць [...] Калі б яно магло быць набытым за грошы, то жанчына, якая ўкінула дзве маленькія манеты, няшмат бы атрымала. Але таму, што ў яе выпадку не памер сумы, але добрая інтэнцыя пераважыла, то яна атрымала ўсё"*. Такім чынам ахвярнасць – гэта не справа прававых нормаў, а любові. Ахвяра, прынесеная ад сэрца, павялічвае любоў ахвярадаўцы, надзяляе спакоем і радасцю. Усім, хто задумваецца над пастаўленым пытаннем, няхай дапаможа святы Павел, які ў Другім пасланні да Карынцянаў павучае: *"Няхай кожны дае, як вырашыць у сэрцы сваім, а не са шкадаваннем ці з прымусу, бо радаснага даўцу любіць Бог"* (2 Кар 9,7).

***

Пастаўленае пытанне прыпамінае супольнасці Хрыстовага Касцёла пра адказнасць за яго стан, як у духоўным, так і ў матэрыяльным вымярэнні, што ў сваю чаргу патрабуе ад усіх вернікаў, духоўных і свецкіх, адкрытасці сэрца, любові ды шчодрасці. Ахвярнасці ўсім трэба вучыцца і маліцца аб ёй.

# Пытанне святару: пакаянне каталічкі ў баптысцкай царкве

*"Хвала Хрысту! Аднойчы мы з сяброўкай пайшлі на канцэрт да баптыстаў. Пасля канцэрту пастар сказаў, што той, хто хоча пакаяцца, хай выйдзе на сярэдзіну і зробіць гэта. Я чамусьці адчула тады такую патрэбу. А цяпер пасля пытання ў "Каталіцкім Весніку" пра шлюб з пяцідзясятнікам, у мяне сумненні: ці не быў гэта грэх? Зразумела, што пра пераход з Касцёла да баптыстаў і адрачэнне ад каталіцтва і мовы няма".*
*Яўгенія*



**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Хвала Хрысту! Калі Вы прававерная каталічка і пайшлі на хрысціянскі канцэрт – гэта не грэх. Але каталічка павінна ведаць пра тое, што **такія публічныя мерапрыемствы – гэта не сакрамант пакаяння!**

Каяцца трэба ў сакраманце пакаяння ў касцёле, бо гэта вельмі асабістая, я б сказаў інтымная справа паміж Богам і пенітэнтам. Нельга рабіць тут эмацыянальнае, публічнае шоу, бо ў пяцідзясятнікаў гэта вельмі эмацыйна перажываецца.

Эмацыянальнасць – вельмі важны складнік у жыцці кожнага чалавека, але ў дадзеным кантэксце не ў ёй сутнасць. Іншая справа, калі я даю асабістае, публічнае сведчанне пра ўласны досвед Бога ў маім жыцці.

**Каб пазбягаць такіх нязручных сітуацый, я б асабіста туды не пайшоў, каб не ставіць сябе як католіка ў нязручную сітуацыю.**

Прынамсі важна адчуваць, што адбываецца, а таксама важнасць асабістага пакаяння перад Богам у сакраманце пакаяння і паяднання з Богам і Касцёлам.

Спадзяюся, што я падрабязна адказаў на Вашае пытанне. Сцеражы Вас Бог!

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Мы дзякуем Пану Богу, што на нашай зямлі сярод нас жыве* ***айцец Марэк Пасют****. Позірк яго заўсёды міласэрны, ён ніколі не глядзіць на нас з падазронасцю і не судзіць па знешнім выглядзе, а заўважае тое, што прыгожае, і ідзе на дапамогу. Слых яго міласэрны, бо чуе боль бліжніх, для кожнага ён мае словы суцяшэння і прабачэння. Рукі яго поўныя добрых учынкаў і бяруць на сябе найцяжэйшую працу. Ногі заўсёды спяшаюцца на дапамогу, перамагаючы ўласную стомленасць. Сэрца заўжды спачувае пакутам бліжніх.*

*У гадавіну святарскага пасвячэння (17 снежня) ад усяго сэрца жадаем Вам, а. Марэк, Божага блаславення і апекі Маці Божай, натхнення Духа Святога на доўгае святарскае служэнне, супакою, радасці, здароўя! Няхай Добры Бог аддзячыць за Вашу вялікую веру, за цярплівыя навучанні, за шчырае сэрца, а Маці Божая няхай дапаможа здзейсніць усе добрыя справы на хвалу Пана Бога!*

***Удзячныя вернікі капліцы Езуса Міласэрнага, в. Гняздзілава (Докшыцкі раён)***

## Хвала Хрысту!



*"Маргарытка" парафіі Перамянення Пана ў вёсцы Германавічы Шаркаўшчынскага раёна шчыра віншуе нашага* ***ксяндза Яна Пугачова*** *з Божым Нараджэннем і Новым годам!*

*Няхай Божая міласэрнасць адорыць Вас, ксёндз Ян, патрэбнымі ласкамі для выканання штодзённых абавязкаў! Моцнага Вам здароўя, сілы, цярплівасці ў пастырскай паслузе і ўсіх ласкаў ад народжанага Хрыста!*

*Атуляем Вас нашай любоўю і штодзённай малітвай.*

## Віншуем!

*Паважаныя* ***ксёндз Альфрэд Пяхота*** *і* ***ксёндз Зенон Шчонхар****, віншуем Вас з імянінамі. Жадаем Вам моцнага здароўя, нястомнай радасці. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, заўсёды натхняе і ўзмацняе Вас. Маці Божая няхай атуляе Вас сваёй апекай і адаруе неабходнымі ласкамі, няхай ахоўвае і падтрымлівае.*

*Няхай Ваша мудрасць, дабрыня і клопат пра людзей заўсёды будуць для нас прыкладам жыцця.*



*Плённай працы, Божага блаславлення на доўгія гады. Дзякуем за ахвярную працу, за чулае сэрца, за ўвагу і цярпенне да кожнага з нас.*

***Вернікі касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

## Хвала Хрысту!



*Ад шчырага сэрца віншуем са святам Божага Нараджэння* ***рэдакцыю "Каталіцкага Весніка", ксяндза Яна Пугачова*** *і* ***ксяндза Генадзя Рэйшэля****!*

*Поспехаў Вам у дасягненні пастаўленых мэтаў! Хай Ваша праца на Божай ніве прыносіць добры плён! А мы абяцаем маліцца за Вас.*

***Парафіяне касцёла Маці Божай Шкаплернай, аг. Ёды***

## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем нашага* ***ксяндза Андрэя Куліка*** *з нагоды імянін (30 лістапада) і з цудоўным святам Божага Нараджэння!*

*Таксама святароў, якія працавалі ў нашай парафіі: а.Вальдэмара Куява, кс. Віктара Місевіча, кс. Антона Лагунёнка, кс. Віталія Гальца, дарэчы, кс. Віталія і з Днём нараджэння (16 снежня).*

*Хай кожны дзень гэтых святароў будзе напоўнены людской дабрынёй, асвечаны Божай ласкай, апекай Найсвяцейшай Панны Марыі і задавальненнем ад абранага імі шляху.*

*Жадаем добрых і радасных святаў Божага Нараджэння.*

***З вялікай удзячнасцю і павагай, вернікі з вёскі Дзеркаўшчына (Глыбоцкага раёна)***

## Віншуем!



*Віншуем нашага* ***ксяндза Вячаслава Барка****, які святкуе Дзень нараджэння 6 студзеня. Жадаем ксяндзу Вячаславу поспехаў у яго нялёгкай працы, моцнага здароўя. Няхай яму дапамагаюць Бог Айцец, Езус Хрыстус, Маці Божая Марыя і ўсе святыя!*

***З найлепшымі пажаданнямі, парафіяне касцёла Язафата Кунцэвіча (Расоны)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем пяшчотныя словы віншавання, вялікай удзячнасці нашаму* ***пробашчу Раману Мурзічу*** *з нагоды Дня нараджэння (11 снежня).*

*Шчыра жадаем Вам, ксёндз Раман, Божай мудрасці, сілы духу, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Маці Божай, моцнага здароўя! Дзякуем Вам за Божае слова, за Ваша вялікае і добрае сэрца, за Вашу цудоўную ўсмешку, за аптымізм і любоў да людзей. Мы ў штодзённых малітвах памятаем пра Вас!*

***З вялікай пашанай, вернікі парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шаноўны* ***ксёндз-пробашч Аляксандр Баран****, шчыра віншуем Вас са святам Божага Нараджэння! Жадаем Вам вялікай любові ад маленькага Езуса, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, нястомнасці на святарскім шляху. Дзякуем за ахвярнае служэнне ў нашай парафіі.*

***Вернікі лынтупскага касцёла***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Віншуем* ***ксяндза Вацлава Суткоўскага****, які працуе ў нашай парафіі, з Днём нараджэння (4 снежня). Хочам пажадаць гэтаму сардэчнаму чалавеку моцнага здароўя, і каб наш Бог Айцец даваў яму ўсё, што ён жадае!*

***Парафіяне касцёла Язафата Кунцэвіча (Расоны)***

## Паважаная Алена Юхнавец!

*З Днём нараджэння віншуем Вас сардэчна! Шчыра дзякуй Вам за працу, якую неслі нястомна пры Бягомльскім касцёле. Складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, няхай добры Бог ахіне Вас Сваёй апекай, а Марыя Панна атуліць Сваёй мацярынскай любоўю і суцешыць усе трывогі.*

***Сем'і Орсік і Спургяш***

## Хвала Хрысту!

*Паважанага* ***ксяндза Леаніда Мозгеля*** *віншуем з Днём нараджэння!*

*Жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, моцнага здароўя, душэўнага супакою, шчырай радасці, цярплівасці і нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе.*

*Няхай неба над галавой заўсёды будзе ясным, а сэрца напаўняюць цеплыня і ўсё самае лепшае. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя заступаецца за Вас перад Божым тронам, ахінае сваёй апекай і адорвае супакоем.*

*Дзякуем за ахвярную працу, шчырую малітву, мудрыя казанні, прыклад набожнасці, добрае сэрца і за тое, што Вы з намі і для нас.*

*Жадаем радасных і добрых святаў Божага Нараджэння!*

*Шчасці, Божа!*

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю, парафіяне з вёсак Лявонпаль, Дэмскія, Паташня Мёрскага раёна***

## Віншуем!

*Паважанаму* ***ксяндзу Леаніду Мозгелю*** *з нагоды Дня нараджэння (26 снежня) і Калядных святаў дасылаем сардэчныя пажаданні.*

*Няхай здароўе будзе моцным, сілы – бясконцымі, а радасць – штодзённай.*

*Няхай заўсёды атачаюць промні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Панны Марыі.*

*Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі, а святы Заступнік заўсёды знаходзіцца побач.*

*Вельмі ўдзячныя Богу за тое, што ў нас служыць святар, які вучыць быць сапраўднымі хрысціянамі, шчырымі ў малітве і працы, гатовы заўсёды прыйсці на дапамогу. Дзякуем Вам за служэнне ў нашай парафіі, павучальныя казанні, дабрыню, зычлівую ўсмешку, цярплівасць, сціпласць, клопат пра людзей, а Вашай маме – за сына святара.*

***Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Маці Божай Фацімскай у Паваццi***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем у газету шчырыя віншаванні нашаму* ***ксяндзу Віталію Галецу*** *з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначае 16 снежня! Жадаем Вам, паважаны ксёндз Віталій, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Панны Марыі, дароў Духа Святога! Мы ўдзячныя Богу за ласку маліцца разам з Вамі, чуць ад Вас Божае Слова. Дзякуем Вам за глыбокую веру, за аптымізм і чуласць, плённую працу на карысць касцёла і парафіі. Цеплыня Вашага сэрца сагравае нас нават у студзеньскія маразы. Шчыра молімся, каб Божая міласэрнасць спадарожнічала Вам і Вашым родным праз усё далейшае жыццё.*

***З павагай, вернікі парафіі Св. Лаўрэна з г.п. Ушачы***

## Хвала Хрысту!



*Ад шчырага сэрца віншуем* ***ксяндза Сяргея Лянгу*** *з 15-годдзем святарскага пасвячэння (7 снежня) і з нагоды юбілею (21снежня)!*

*Няхай добры наш Айцец Нябесны адорыць Вас, шаноўны ксёндз Сяргей, неабходнымі ласкамі і не пакіне без сваёй апекі! Няхай заўсёды падтрымлівае Вас Ласкавая Маці Божая! Божага блаславення і цярпення на доўгія гады! А мы сваёй малітвай будзем падтрымліваць Вас!*

**З павагай апостальскі рух "Маргарытка" парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі аг. Дзераўная, Стаўбцоўскага раёна, Мінскай вобласці**



## Хвала Хрысту!

*Паважаны наш **ксёндз Адам Квяткоўскі**! Сардэчна віншуем Вас з юбілеем, 50-гадовым Днём нараджэння, і з імянінамі.*

*Ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень Вашага святарскага жыцця. Няхай Сэрца Нованароджанага Дзіцятка Езуса прамяніцца заўсёды ў Вашым сэрцы, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Духа Святога, моцнага здароўя, духоўных і фізічных сіл, натхнення, цярплівасці, добразычлівых людзей побач, шчодрага плёну на Ніве Пана.*

*Цешымся Вашай святарскай паслугай. Дзякуем Вам за добрае сэрца, за шчырасць, мудрасць, за любоў да Пана Бога, якая з'яўляецца прыкладам для ўсіх нас.*

*Шчыра дзякуем Вашым бацькам, што пасеялі зерне веры ў Вашай душы і ахвяравалі Богу.*

***Удзельнікі малітоўнай групы "Маці ў малітве" Санктуарыя Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Божае Нараджэнне – цудоўнае, добрае і цёплае свята, якое чакаюць усе: і дарослыя, і дзеці. Душу ўзвышае Нараджэнне Збаўцы!

І ў гэтыя радасныя, святочныя дні **дасылаем у нашу каталіцкую газету шчырыя, сардэчныя віншаванні ўсяму рэдакцыйнаму калектыву газеты "Каталіцкі Веснік" на чале з галоўным рэдактарам Віктарам Місевічам, усім святарам і духоўным асобам з нашым паважаным біскупам Алегам Буткевічам! Нашы асаблівыя словы віншаванняў і падзякі дасылаем святарам, клерыкам, якія працавалі ў Чашніках і прыязджаюць да нас цяпер!**

Моцнага вам здароўя, добрага настрою, цяпла і ўтульнасці ў гэтыя зімовыя дні! Няхай вашай святарскай дзейнасці заўседы спадарожнічаюць радасць творчага пошуку і аптымізм! Хай сілы і запал да абвяшчэння Слова Божага ніколі не пакідаюць вас!

Доўгіх гадоў жыцця, шмат радасці жадаем вашым бацькам! Няхай нашы шчырыя малітвы і нашы просьбы аб нястомнай апецы ў Пана Бога для вас і вашых родных заўсёды здзяйсняюцца!

Са светлым святам Божага Нараджэння! З Новым 2018 годам!

***Парафіяне Касцёла Перамяненне Пана, г. Чашнікі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

**Паважаны ксёндз Віктар і супрацоўнікі рэдакцыі!**

Газету я выпісваю ўжо тры гады і чытаю з вялікай цікавасцю. Ад замілавання ў мяне слёзы самі цякуць, так кранаюць за душу артыкулы, асабліва віншаванні святароў.

Я, парафіянка Касцяневіцкай парафіі, а хачу расказаць пра **ксяндза Уладзіміра Каспарэвіча**, які працаваў у Альковіцкай парафіі і часта прыязджаў да нас. Цяпер ён працуе ў Рубяжэвічах. Такога працавітага святара я не бачыла, хоць маю 77 гадоў. Яшчэ падчас вучобы ён на Мядзельшчыне засеяў клумбу "Ave Maria". Пасля заканчэння вучобы быў накіраваны на Магілёўшчыну ў новазарэгістраваную парафію, дзе цяжка захварэў. Потым вярнуўся ў Маладзечна, дзе рабіў драўляныя вырабы для касцёла.

Калі прыехаў працаваць у Альковічы, з дапамогай старэйшых парафіянаў навёў належны парадак на могілках, якія былі зарослы векавымі соснамі і кустамі. Святар меў на руках мазолі ў чатыры рады.

Колішняя плябанія ўрасла ў зямлю, а кусты сцяной стаялі вакол. Ксёндз усё выкарчаваў сваімі рукамі і пабудаваў новую прыгожую плябанію. У касцёле таксама рабіў рамонт сам. Трымаў і гаспадарку, гадаваў качак, гусей, трусоў, пчолак. А навуку ў касцёле ксёндз Уладзімір гаварыў так зразумела і для старых, і для малых.

Некалькі гадоў таму яго накіравалі ў Рубяжэвічы. Дапамажы яму, Божа, каб і там ксёндз Уладзімір выканаў сваю задачу і паказаў, як трэба працаваць на хвалу Божую! А мы будзем маліцца за яго і прасіць на ўсіх святых дапамогі!

***Вераніка, верніца Касцяневіцкай парафіі***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

**Паважаны ксёндз Віктар Місевіч!**
**Паважаная рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"!**

Прыміце самыя шчырыя віншаванні і пажаданні ў сувязі са святам Божага Нараджэння. Ад шчырага сэрца дасылаю ўсім Вам самыя шчырыя пажаданні моцы Духа Святога, плёну ў працы на карысць Святога Касцёла і Божай ласкі, моцнага здароўя на кожны дзень жыцця. Няхай нованароджаны Езус заўсёды будзе ў вашых сэрцах, думках і паўсядзённых справах – каб спаўняліся вашы планы і мары.

Божае нараджэнне напаўняе людзей асаблівым духоўным святлом, радасцю і ўпэўненасцю, што ў новым 2018 годзе Пан Бог дасць нам ласку, каб свет ачышчаўся ад усялякага зла і падману. Хачу выказаць сваё пажаданне ўсім католікам, каб Дзіцятка Езус і Маці Божая дапамаглі ў 2018-м годзе ўбачыць на нашай беларускай зямлі паважанага і моцна жаданага госця, Святога Айца Францішка. Гэта быў бы самы дарагі, самы радасны і самы шчаслівы момант у жыцці беларускіх католікаў! Хай гэта будзе ў 2018-м годзе! Бо пажылыя католікі могуць і не дачакацца гэтай падзеі, як не дачакалася гэтага мая мамачка, якую я забрала з роднай Браслаўшчыны ў 1980-м годзе. Ёй было тады 72 гады. Яна заўсёды моцна малілася і заўсёды ў яе руках быў ружанец. А я 50 год пражыла без касцёла і святара ў горадзе Ельску Гомельскай вобласці, куды была накіравана на працу пасля заканчэння сельскагаспадарчага інстытута. Там прыйшлося амаль 40 год працаваць, спазнаць Чарнобыльскае ліхалецце, перажыць смерць мужа. Жывучы ў бязбожжы ў Ельску, я перажывала, што тут няма касцёла. Асабліва сумавала мая мамачка, якая адышла ў вечнасць у 1990-м годзе. Яна часта мне казала: "Чаго цябе, дачушка, накіравалі ў гэтае Палессе?". Яна мяне многаму вучыла, казала, што без Бога нельга жыць, што трэба маліцца, і ўсё зменіцца да лепшага. І, сапраўды, у хуткім часе да нас сталі прыязджаць ксяндзы з Нароўлі і Грушакоў, там былі адбудаваныя касцёлы. Мы маліліся ў Ельску па хатах. Калі ў нараўлянскі касцёл прыехаў ксёндз Віцэнты Сяўрук, ён па святах праводзіў святую Імшу па хатах, а затым стаў займацца будоўляй касцёла. Вялікі груз усклаў на свае плечы і рукі гэты святар. У мяне сціскалася сэрца, калі бачыла яго за працай з сякерай, рубанкам. Дапамагчы не было каму. Памятаю, як ксёндз прыехаў на Імшу з разбітым носам – са столі звалілася дошка і падрапала нос. Але ён усе цяжкасці прымаў з усмешкай, ельскіх католікаў святар палюбіў.

У 2013-м годзе ў Ельску была ўрачыстасць, біскуп Антоні Дзям'янка асвяціў каталіцкую святыню. І на гэтую занядбаную зямельку спусціўся Бог, які жыве і будзе жыць вечна. На жаль, мне прыйшлося пераехаць пасля перанесенага інсульта да дзяцей у Гомель. Мне тут вельмі добра. Ёсць касцёл, які наведваю па святах, а то і ў будні дні. Святую Імшу цэлебруе ксёндз Юрый Варанко, вельмі добры святар. Але сумую па ельскім касцёле, дзе цяпер працуе ксёндз Віталіс з Лельчыц, прыязджае па святах. На Дзень Задушны могілкі асвячаюць каталіцкія святары. Так што мая мамачка радуецца ў небе, што ў Ельску ёсць касцёл і ксёндз, які моліцца за тых, якія не дачакаліся гэтага пры жыцці.

"Каталіцкі Веснік" я чытаю і перачытваю, мне здаецца, што пабывала на сваёй радзіме, на Браслаўшчыне. Мяне хрысцілі ў касцёле Св. Яна Хрысціцеля 24 чэрвеня 1939 года. Першую Святую Камунію прымала ў касцёле ў в. Пеліканы. Хадзілі з сястрой Рэгінай (вечная ёй памяць) у касцёл св. Пятра і Паўла ў Друсвятах. У м. Опса закончыла 10 класаў. Далей вучылася ў Віцебску. Таму Віцебская дыяцэзія мне родная, і я вельмі рада пачытаць вашу газету.

Усяго добрага! Заставайцеся з Богам!

***З павагай, Ванда Дзенісенка, г. Гомель***



# Святы Пасад: новая інструкцыя аб рэліквіях святых

**16 снежня 2017 года ў Ватыкане была апублікавана інструкцыя Кангрэгацыі па справах Кананізацыі "Рэліквіі ў Касцёле: аўтэнтычнасць і захаванне".**

На самым пачатку, ва ўступе, тут гаворыцца, што рэліквіі заўсёды ўспрымаліся ў Касцёле "з асаблівай пашанай і ўвагай", паколькі цела благаслаўлёных і святых "было на зямлі жывым храмам Святога Духа і прыладай іх святасці". У той жа час, гучыць напамін, што рэліквіі "не могуць быць выстаўлены для шанавання вернікаў без спецыяльнага пасведчання касцёльных уладаў, якія гарантуюць іх аўтэнтычнасць".

Традыцыйна рэліквіямі лічацца: цела благаслаўлёнага і святога, яго значныя часткі або ўвесь аб'ём попелу, які застаўся ў выніку крэмацыі, гаворыцца ў інструкцыі. І менавіта дыяцэзіяльныя біскупы і епархіяльныя іерэі, а таксама Кангрэгацыя па справах Кананізацыі павінны здзяйсняць асаблівы догляд і нагляд за захаваннем і шанаваннем рэліквій, іх абарону ад злоўжыванняў. Яны павінны захоўвацца ў запячатаных арыгінальных урнах і размешчаны ў месцах, якія гарантуюць бяспеку, адрозніваюцца сакральнасцю і спрыяюць пашырэнню культу.

Ва ўступе гаворка ідзе і пра невялікія фрагменты цела благаслаўлёнага і святога ці аб'екты, якія былі ў непасрэдным кантакце з гэтымі асобамі. Яны павінны захоўвацца і ўспрымацца згодна з рэлігійным духам, з пазбяганнем любых форм забабонаў і камерцыялізацыі.

Аналагічныя правілы прымяняецца і да парэштак Слуг Божых, чые працэсы беатыфікацыі і кананізацыі працягваюцца. Дачасу, пакульяны афіцыйна не ўзведзены да хвалы алтароў, з імі не можа быць звязана ніякае набажэнства ці прывілеі, уласцівыя благаслаўлёным або святым.

Новая інструкцыя замяняе сабой спецыяльны дадатак да інструкцыі "Sanctorum Mater". У ёй прадстаўлена кананічная працэдура, якой неабходна прытрымлівацца, каб праверыць сапраўднасць рэліквій і парэштак, забяспечыць іх захаванне і садзейнічаць шанаванню праз канкрэтныя дзеянні: кананічнае прызнанне, узяцце фрагментаў і змяшчэнне ў рэліквіярый, перанясенне урны і перадачу рэліквій. Тут прапісаны ўмовы, неабходныя для атрымання згоды Кангрэгацыі па справах Кананізацыі для правядзення аперацый і працэдур, звязаных з перэгрынацыяй рэліквій.

Кампетэнтнай асобай, якая мае права выконваць усе аперацыі, звязаныя з рэліквіямі або парэштками, з'яўляецца дыяцэзіяльны біскуп або епархіяльны іерэй, пры ўмове згоды Кангрэгацыі па справах Кананізацыі, напісана ў першай частцы дакументу. Тут гаворка ідзе, напрыклад, пра месца захавання рэліквій, яго змену, у межах дыяцэзіі або па-за ёй, пра ўзяцце фрагментаў.

Біскуп павінен "скрупулёзна" сачыць за тым, каб не ўзнікалі прыкметы незаконнага культу Слугаў Божых, якія яшчэ не абвешчаны благаслаўлёнымі, гаворыцца ў інструкцыі. Біскуп тэрыторыі, дзе знаходзяцца рэліквіі або парэшткі, можа дзейнічаць асабіста або праз свайго святара-дэлегата. Ён абавязаны прызначыць трыбунал, у які павінны ўвайсці біскупскі дэлегат, прамотар справядлівасці і натарыус. Павінны быць прызначаны таксама па меншай меры два вернікі – з духавенства, кансэкраваных асоб або свецкіх – з задачай выступаць у якасці сведак. Усе, хто прымае ўдзел у аперацыях, звязаных з рэліквіямі, павінны даць прысягу або абяцанне добрасумленна выконваць свае задачы і захоўваць службовую таямніцу.

У інструкцыі гучыць абсалютная забарона на гандаль, абмен у натуральнай форме або ў грашовым выразе, а таксама на продаж рэліквій. Нельга выстаўляць рэліквіі ў "прафанаваных" або несанкцыянаваных адпаведнымі касцёльнымі ўладамі месцах.

*Ватыканскае радыё*

# Пытанне пра стэрылізацыю: грэх ці не?



*Добры дзень! Мяне завуць Ганна. Мне 38 гадоў, і ёсць трое дзяцей. Думаем з мужам, што, можа, каму-небудзь з нас зрабіць стэрылізацыю? Нідзе ў інтэрнэце не магу знайсці інфармацыю, што думаюць каталіцкія святары пра стэрылізацыю – мужчынскую або жаночую. Гэта грэх ці ўсё ж такі не? Хацелася б даведацца. Можа, спасылкі ёсць, дзе можна прачытаць? Дзякуй!*

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP, піяр з Ліды:**

– Хвала Хрысту! Дзякую Вам, Ганна, за гэтае складанае пытанне, таму што яно вельмі важнае ў жыцці каталіцкіх сужэнцаў. Паспрабую вельмі падрабязна растлумачыць Вам падыход Касцёла да справы стэрылізацыі.

Сам тэрмін *"стэрылізацыя"* ахоплівае ўсе дзеянні, вынікам якіх з'яўляецца прычыненне бясплоднасці тым, хто здольны перадаваць жыццё. Такая працэдура можа быць арганічнай або функцыянальнай.

**Арганічная стэрылізацыя** адбываецца тады, калі чалавеку выдаляюцца органы, патрэбныя для апладнення. **Функцыянальная стэрылізацыя** – гэта калі пакідаюцца органы, адказныя за апладненне, але блакуецца іх функцыянаванне, каб зрабіць немагчымым пладнасць.

Іншым важным адрозненнем з'яўляецца тое, што ўказвае на **антыканцэпцыйную** і **тэрапеўтычную стэрылізацыю**. У першым выпадку маем справу з добраахвотным выключэннем пладнасці і ўмяшанне ў структуру інтэгральнасці арганізма жанчыны або мужчыны. Стэрылізацыя можа быць у мужчын (вазатамія, ваээктамія, кастрацыя, эвірацыя) альбо жанчын (сёння ўжываецца больш за сто метадаў цэліяскапіі ці кульдаскапіі).

**Антыканцэпцыйная стэрылізацыя** – гэта найбольш распаўсюджаная форма. Стэрылізацыя ці кастрацыя маюць за сабой доўгую гісторыю і вельмі розныя матывы іх прымянення. Для прыкладу, дастаткова ўзгадаць стэрылізацыю ці кастрацыю вязняў, эўгенічныя ўмяшальніцтвы, якія выкарыстоўвалі расісты, ці таксама антыканцэпцыйную стэрылізацыю. Усе гэтыя і падобныя да іх умяшальніцтвы ў непарушнасць чалавечага жыцця і цялесна-духоўную інтэгральнасць звязаны з маральнай праблемай калецтва, а таксама з умяшальніцтвам у спосаб перадачы жыцця.

Тут трэба адзначыць, што кастрацыя, так як і стэрылізацыя, – гэта дзеянні, якія датычаць розных метадаў абясплоднення канкрэтнай асобы. Кастрацыя – выдаленне ўнутраных палавых органаў (яечкі ў мужчыны, яечнікі або матка ў жанчыны), а падчас стэрылізацыі адбываецца толькі падвязванне, альбо аклюзія семявыносных пратокаў ці матачнай трубы з мэтай зрабіць немагчымым праход плодных клетак з яечак ці яечнікаў у вонкавыя палавыя органы.

Калі стэрылізацыя ці кастрацыя добраахвотныя, асабліва антыканцэпцыя, то падыход да іх у этыцы называецца спецыфічнай формай калецтва чалавека і парушэннем ягонай цялесна-духоўнай інтэгральнасці. Адсюль і негатыўная маральная ацэнка, і забарона паддавацца такім умяшальніцтвам. Справа ў тым, што ва ўсіх актах абясплоднення чалавека, у кастрацыі і стэрылізацыі, адбываецца парушэнне таго, што з'яўляецца маральным сэнсам цалкам узятых сэксуальных здольнасцяў чалавека, менавіта парушэнне іх жыццятворчага прызначэння. Мы маем тут справу з разбурэннем аб'ектыўнай структуры сэксуальнасці і цялеснай інтэгральнасці асобы.

Грунтуючыся на гэтым, можам сказаць, што такая інтэгральнасць і яе захаванне становіцца "правам чалавека", над якім ужо няма вышэйшай улады.

Іншую маральную ацэнку мае **тэрапеўтычная стэрылізацыя**. Вырашальнае значэнне мае тут правіла падпарадкавання сэксуальнасці – частковай структуры адносна дабра асобы як базавай цэласнасці. Іншымі словамі кажучы, ва ўсіх сітуацыях, звязаных са здароўем і жыццём арганізма, "частка можа быць ахвяраваная дзеля ратавання цэласнасці". Маецца тут на ўвазе тое, што пры некаторых захворваннях адсутнасць аператыўнага ўмяшальніцтва можа стаць прычынай смерці чалавека ці пастаяннага калецтва. Калі кастрацыя ці стэрылізацыя ў такой сітуацыі з'яўляюцца эфектыўным спосабам вяртання здароўя чалавеку ці ратавання жыцця, то тады такі ўчынак дапускаецца і будзе маральна апраўданы, таму што маральнае зло да такіх дзеянняў не адносіцца.

Тэрапеўтычная стэрылізацыя маральна дазваляецца толькі пры наступных ўмовах:

- павінна быць згода пацыента;
- аперацыя павінна мець на мэце непасрэднае ратаванне здароўя або жыцця ўсяго чалавека, а не нешта іншае;
- гэта павінна быць адзіна магчымае медычнае ўмяшальніцтва;
- існуе актуальная неабходнасць такога ўмяшальніцтва.

Пры такіх жа ўмовах дапускаецца непрамая стэрылізацыя *(indirecta)*. Так абазначаюцца ўсе абавязковыя і адзіныя ў сваім родзе дзеянні, што прыводзяць да абясплоднення чалавека.

Калі казаць пра ментальнае спрыянне стэрылізацыі, то, без сумневу, пры яго дапамозе фізічныя асобы, як і палітычныя (асабліва ў Еўропе), прагнуць вырашыць дэмаграфічнае пытанне.

З касцельных дакументаў, якія гавораць нам пра стэрылізацыю і яе маральнае недапушчэнне, заслугоўвае ўвагі дактрына ў *Humanae vitae (http://www.unavoce.ru/library/humanae_vitae.html)*, а таксама Дэкларацыя Кангрэгацыі Веравучэння, якая была выдадзена ў адказ на ліст Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у ЗША аб забароне выкарыстання стэрылізацыйнага ўмяшальніцтва ў каталіцкіх шпіталях. Гэты дакумент палемізуе нават з разнастайнымі тэалагічнымі меркаваннямі. Дакумент Кангрэгацыі выразна і наўпрост кваліфікуе антыканцэпцыйную стэрылізацыю як маральна недапушчальнае дзеянне. Абапіраючыся на гэтае правіла, пабудавана і дактрына *Familiaris consortio (http://familyspb.narod.ru/Familiaris_consortio.html)*, якая таксама тлумачыць падыходы супраць жыцця *(antilife mentality)*. Таму Касцёл асуджае гэта як вялікую зняважу годнасці чалавека і справядлівасці.

*Evangelium vitae (http://www.unavoce.ru/library/evangelium_vitae.html)* аб'ядноўвае праблему стэрылізацыі з прэнатальнай маніпуляцыяй. Усе прэнатальныя дыягнастычныя метады маральна апраўданыя, калі не ствараюць небяспекі для дзіцяці і яго маці. Вельмі важна, каб такія маніпуляцыі не выкарыстоўваліся для селектыўнага перарывання цяжарнасці, дзеля таго, каб прадухіліць нараджэнне дзіцяці з нейкімі асаблівасцямі ці анамаліямі. Такі падыход ганебны і ў найвышэйшай ступені заганны, таму што пакідае за сабой права мераць каштоўнасць чалавечага жыцця выключна паводле крытэрыю "нармальнасці" і фізічнага здароўя, такім чынам адкрываючы шлях для легалізацыі забойства дзяцей і эўтаназіі.

Спадзяюся, што падрабязна адказаў на Вашае складанае пытанне адносна стэрылізацыі. Сцеражы Вас Бог!



# Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА



## Злучы па парадку

Злучы ўсе кропкі па парадку, а потым размалюй святочную ёлачку!




## Палічы правільна

Палічы ўсе цацкі на святочнай елцы. У таблічцы запішы колькасць кожнай цацкі



## Што за чым адбывалася?

Што за чым адбывалася? Уважліва паглядзі на малюнкі. Успомні евангельскую вестку пра Божае Нараджэнне. Табе неабходна пад кожным малюнкам паставіць лічбы ад 1 да 4 у правільным парадку. Каб добра выканаць заданне, разам з бацькамі перачытай гісторыю нараджэння Езуса ў Бібліі.

Іосіф з Марыяй вырушылі ў Бэтлеем.

☐



Пастухі прыйшлі пакланіцца немаўляці Езусу.

☐



Анёл Габрыэль з'явіўся Марыі, каб абвесціць, што яна народзіць Сына, імя якому будзе Езус.

☐



Нарадзіўся Езус.

☐



## Святочная віктарына. Выберы правільны адказ для кожнага пытання!

Хто паведаміў пастухам пра нараджэнне Езуса?



А. Анёл;
Б. Каралі, якіх пастухі сустрэлі па дарозе;
В. Марыя

Як называецца горад, у якім нарадзіўся Езус?



А. Іерусалім;
Б. Назарэт;
В. Бэтлеем.

Хто прыходзіў пакланіцца немаўляці Езусу перад каралямі?



А. Жыхары Іерусаліма;
Б. Пастухі;
В. Кесар Аўгуст.

Хто прынёс у дар Езусу золата, ладан і смірну?



А. Пастухі;
Б. Мудрацы з усходу;
В. Кароль Ірад.

Імя караля, які кіраваў Юдэяй у той час, калі нарадзіўся Хрыстос.



А. Ірад;
Б. Понцій Пілат;
В. Хеопс.

## Віншаванне ад "Пазнавайкі"

Расшыфруй напісанае і даведайся, што табе жадае "Пазнавайка"!Адказ запішы ніжэй.




______________________________

______________________________

## Святы Мікалай

## *Пазнаём Святых!*

Маленькі хлопчык Мікалай нарадзіўся ў багатай сям'і. Бацькі куплялі яму ўсё найлепшае. Ён заўважаў, што іншыя дзеці не маюць такога дастатку. Таму заўсёды, ідучы ў касцёл, хлопчык браў з сабой шмат ежы і розных прысмакаў і раздаваў іх бедным дзецям. Ён быў вельмі добрым і пабожным чалавекам, таму жыхары горада Міры абралі яго сваім біскупам. Найбольшую славу святому прынеслі яго незвычайная дабрыня і гатоўнасць заўсёды прыйсці на дапамогу бліжнім. Аднойчы ён падкінуў тайком ноччу грошы тром дзяўчынам, якіх бацькі хацелі выдаць за багатых, але бязбожных жаніхоў, тым самым пазбавіўшы іх ганьбы. Ён таксама дапамог уратавацца маракам, якія гінулі на моры. Святога лічаць вялікім сябрам дзяцей. Штогод у калядныя ці навагодні час хлопчыкі і дзяўчынкі чакаюць святога Мікалая, які прыносіць падарункі!



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Радзевіч***

# СВЯТОЧНЫ ГУМАР

У сям'і было двое дзяцей: адзін песіміст, а другі аптыміст. Набліжалася Божае Нараджэнне. Вырашылі бацькі "зраўняць" дзяцей і прыгатавалі падарункі - песімісту коніка, а аптымісту падкоўку. Раніцай дзеці прачынаюцца ...

Песіміст:

– Ну, конік ... маленькі, а я хацеў вялікага! ... Карычневы, а я хацеў шэрага ... Драўляны, а я хацеў жывога!

Аптыміст:

– А ў мяне жывы! Толькі ўцёк!

* * *

Адна веруючая дзяўчына выйшла замуж і паехала жыць з мужам у іншую краіну. Прайшло паўгода, і бацькі гэтай дзяўчыны атрымалі ад маладых маленькую калядную паштоўку са словамі:

– Дзіця нарадзілася нам! Ісая 9,6

Бацька дзяўчыны ў здзіўленні кажа жонцы:

– Як у іх магло так хутка нарадзіцца дзіця? Толькі ж паўгода прайшло, як узялі шлюб?

На што жонка з жахам адказвае:

– Яна ж у нас такая мініяцюрная. Як яна змагла нарадзіць дзіця 9,6 кг?

– Так! – засмуціўся бацька, - ды яшчэ і Ісая назвалі ... імя ж нейкае не беларускае!

* * *

Уся сям'я сабралася каля вігілійнага стала. Стол накрыты. Чакаюць толькі першай зоркі. Каля стала адно дадатковае, пустое месца. Раптам стук у дзверы.

– Хто там?

– Стомлены вандроўнік, ці ёсць вольнае месца для мяне?

– Ёсць.

– І я магу ім скарыстацца?

– Не.

– А чаму!?

– Таму што па традыцыі павінна быць пустым!!!

* * *

Пасля Божага Нараджэння прыходзіць да псіхіятра маленькі хлопчык і кажа:

– Доктар, з маім татам штосьці не ў парадку. Некалькі дзён таму ён прыбраўся як стары дзед і сцвярджаў, што



яго завуць святы Мікалай!

* * *

Якая самая любімая калядка мужа і жонкі, у якіх толькі нарадзілася дзіця?

– Ціхая ноч!

* * *

У канцы Імшы святар спявае:

– Ідзіце ў супакоі Хрыста!

Пяцігадовая дачка цягне тату за рукаў:

– Хадзем супакоіць Хрыста!

# Фотафакт Папа і кацяняты



# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(Бярозаўка)*, **Зенона Алькснін** *(Браслаў)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(Новыя Габы)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Леангіна Астаноўка** *(Атокі)*, **Каросцік Л.Б.** *(Параф'янава)*, **Ірына Война Войтава** *(Дзісна)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Марыя Шук** *(Лявонпаль)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Іван Сіманенак** *(Паставы)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Марыя Атрахімовіч** *(Дунілавічы)*, **Камілія Емельянава** *(Дунілавічы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Іван Кулік** *(Мікелеўшчына)*, **Святлана Грэцкая** *(Вазоўнікі)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Ванда Кавалеўская** *(Лявонпаль)*, **Ядвіга Казлоўская** *(Мяжаны)*, **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Алена Шуцько і "Маргарытка"** *(Агароднікі)*, **Леакдзія Пазняк** *(Прусы)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Генавэфа Дубіловіч** *(Камаі)*, **Аляксандра Гушча** *(Оцкавічы)*, **Людміла Бараноўская** *(Муляры)*, **Вільгельміна Барткевіч** *(Муляры)*, **Крысціна Букатава** *(Муляры)*, **Яніна Сінкевіч** *(Муляры)*, **парафіяне з Дзеркаўшчыны**, **Галіна Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Ганна Працук** *(Шунеўцы)*, **Аляксандр Грайчонак** *(Глыбокае)*, **Паліна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Эмма Козел** *(Докшыцы)*, **Юрый Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Валянціна Віткоўская** *(Шудаўцы)*, **Рэгіна Сідарэвіч** *(Маладзечна)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Голуб В.М.** *(Магіліцы)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Аліна Бервячонак** *(Прусы)*, **Эмма Сцяпанава** *(Сталіца)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

# Увага! Падпіска на І паўгоддзе 2018 года!

**Кошт падпіскі:**
на месяц – **96 капеек**,
на 3 месяцы –
**2 рублі 88 капеек**,
на 6 месяцаў –
**5 рублёў 76 капеек**.
Зрабіць гэта можна
ў любым аддзяленні
"Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Павіншуй з Новым Годам сябра! Падпішы яго на "Каталіцкі Веснік"!**



Адказы на тэст: 1 – В; 2 – В; 3 – Б; 4 – Б; 5 – В; 6 – А; 7 – А; 8 – А.

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

**Дарагія сябры!**

**Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**

**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**

**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**

**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:**
Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:**
Марына Сінкевіч
**Карэктары:**
Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 7894

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.12.2017 г. у 10.38

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621





Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь